вызначэньня вертыкальных профіляў ямы і нагляднага вывучэньня стратыграфіі раскопа (што ў археалогіі вельмі важна).

Мэтодыка сябе апраўдала. У магілах зафіксаваны перакопы дзьвух ямаў. Першасная, як правіла, вялікая. Другая (пазьнейшая) -- меншая і нібы ўстаўленая ў першую яму. Па баках у зазорах паміж першаснай і другой ямах знойдзены шкілеты, косьці і чарапы ўжо з узроўню 40-50 сантымэтраў ад дзённай паверхні. У той час як у цэнтры пласт касьцей у ямах пачынаўся ў межах 1,6 -- 2 мэтры. Некаторыя ямы дасягалі 2,75 мэтра ў глыбіню, і толькі на дне былі чалавечыя косьці. Профіль запаўненьня ямы касьцьмі выглядаў як лейка. Перапад глыбіні заляганьня касьцей па краях і ў цэнтры раскопа складаў у некаторых магілах больш за адзін мэтар. Такое магло здарыцца тады, калі магілу раскопвалі і выбіралі косьці. У цэнтры выбралі амаль да дна, а па баках засталося.

Нагадаю, што літаральна ўсе сьведкі, якія бачылі вынікі расстрэлаў, пасьведчылі, што ямы былі запоўнены трупамі амаль да краёў. (Адзін сьведка расстрэлаў у парку Чалюскінцаў -- шафёр, які вазіў на расстрэл, -- казаў, што часам, каб дастраляць групу, энкавэдзіст нават ускокваў у яму на трупы і таптаўся, падскокваў, тахціў іх, як сена, каб болей улезла.)

У парэштках, што былі ў магілах, выяўлена розная колькасьць асобін: ад 31 да 107. Пры падліку ва ўсіх ямах выявілася несупадзеньне колькасьці чарапоў і колькасьці ніжніх канечнасьцяў. У некаторых магілах розьніца сягала на 20 пазыцыяў (напрыклад, 87 чарапоў і 107 парных канечнасьцяў).

Падсумоўка ўсіх гэтых фактаў, вертыкальных і гарызантальных профіляў раскопаў, аналіз стратыграфіі, перападу ўзроўню заляганьня касьцей у магілах і несупадзеньня асобнаснай камплектацыі парэштак людзей -- усё гэта сьведчыць, што магілы былі пазьней парушаны і косьці ў бальшыні хаатычна агулам былі выбраныя зь ямы.

Гэта ёсьць археалагічна пацьверджаны навуковы факт дасьледваньня, які не пакідае месца для іншых інтэрпрэтацыяў. (Дадам, што ўзрост самых вялікіх дрэваў (сасны), што выраслі зь некаторых ямаў, на 1988 год складаў 40 гадоў. Тут ускоснае пацьвярджэньне таго, што апошнія раскопкі і выемка касьцей з магіл маглі быць у другой палове 40-х гадоў.)

Пасьля ўстанаўленьня факту выбаркі парэштак былі зробленыя адпаведныя разьлікі: падлічана колькасьць асоб у ніжнім (найбольш цэлым) пласьце магілы (археалагічны "пласт" -- гэта 20 сантымэтраў па вышыні). Гэтая колькасьць памнажалася на колькасьць пластоў, якая рэальна мусіла быць да выбаркі (гэта значыць ад верхняга ўзроўню знаходак да

ніжняга на глыбіню профільнай "лейкі"). У выніку ў кожнай магіле колькасьць расстраляных павінна быць большай у сярэднім у тры, і нават чатыры разы, чым тое, што засталося.

Нават калі абмежавацца толькі гэтым і механічна памножыць на 510 выяўленых і відочных тады магіл, то атрымліваем лічбу ў 100-120 тысяч расстраляных. Але ў Курапатах ёсьць шмат большых магіл, чым тыя, што былі намі распрацаваныя (напрыклад, па 10 мэтраў па адным баку).

Наступнае, пра што я ўжо пісаў вышэй, -- уздоўж лясной дарогі паабапал было мноства магіл (значна больш за сто). Цяпер магільныя западзены зьнівэляваныя пад адвалам з былой траншэі газатрасы. Трэба ўлічыць яшчэ пахаваньні, якія былі разбураныя ў час пабудовы акружной дарогі ў канцы 1950-х пачатку 60-х гадоў. Зьвесткі аб выяўленьні там чалавечых парэштках пры будаўніцтве зафіксаваныя ў вусных апавяданьнях. У тым месцы, відаць, расстрэльвалі ў 1937 годзе, калі не было плоту. Плот пабудавалі ў канцы 1937-га, і тады ўжо забівалі толькі ў загароджаным месцы.

Калі ўлічыць усе гэтыя чыньнікі, то лічба расстраляных у Курапатах сягае каля 250 тысячаў асоб. Гэтая лічба была таксама зьвераная з сярэднім напаўненьнем "хапуна" (ад 15-ці да 30-ці асобаў у выключных выпадках). Завознасьць "хапуноў" -- па тры-чатыры машыны некалькі разоў на дзень бесперапынна, а ў асобныя гады – і днём, і праз цэлую ноч. І таксама бесперапынна. Расстрэльныя каманды працавалі пазьменна. Пэразьменка ў 23.00. Гэта быў такі канвеер сьмерці, які цяжка ўявіць сучаснаму чалавеку.

Ведаю, дарэчы, шмат гісторыяў (тут дэгрэсія, адступленьне ад разгляду) пра энкаведзістаў, што удзельнічалі ў генацыдзе. Я зьвярнуў увагу, што не спаткаў ні воднага выпадку скрухі (акрамя таго шафёра Мішы, пра якога я некалі пісаў, які заламаўся, калі ўбачыў, што прывёз на расстрэл свайго школьнага настаўніка), ні воднага выпадку сярод спраўцаў расстрэлаў, каб нехта зь іх ня тое, што раскаяўся, але нават, каб перажываў. Наадварот ганарыліся. Часам зьмена маладых расстрэльшчыкаў з Курапатаў аб 23-й гадзіне ўвальвалася пад хмяльком на танцы-вечарынку ў Дроздава (вёска побач з Курапатамі). Іх цягнула да дзевак. Нават кроў не абцерлі, але хацелася патанцаваць. (Дарэчы, там жа ў Дроздаве жыў начальнік расстрэльнай каманды маёр Бочков, які жаніўся на мясцовай; з пачаткам вайны кінуў жонку, дзяцей і ўцёк у Расею, здох у 1978 годзе)

«Праца» гэтых людзей (ці поўлюдзей) была жудаснай. Калі з нагана па інструкцыі ўпрытык стралялі ў патыліцу маладой дзяўчыне з льнянымі валасамі (такой, як на танцах у Дроздаве), куля і парахавыя газы йшлі ў чэрап і на выхадзе з галавы вырывалі дзіру велічыной з кулак. Кусты і трава вакол расстрэльнай ямы былі абпырсканы крывёй і чалавечымі мазгамі. Часам трапляла і на стральцоў. Але «ребята» не праймаліся. Тут яшчэ нагадаю з жыцьця нелюдзяў. У 1941 годзе з інспэкцыяй у Менск прыехаў райхсфюрэр СС шэф Гестапа Гайнрых Гімлер, які пажадаў асабіста паназіраць як айнзацгрупа расстрэльвае габрэяў. Відовішча падзейнічала на шэфа фатальна. Ад паху і выгляду крыві, крыкаў недабітых Гімлер самлеў. Зь ім здарылася гістэрыка. Вынікам стала інструкцыя Гімлера, каб расстрэльвалі больш чалавечна.

Нягледзячы на канібальскую «чалавечнасьць» Гімлер быў пракляты чалавецтвам. Тым часам ў Расеі расстрэльшчыкі і арганізатары генацыду народаў – гэта героі, прыклад для перайманьня. Такая рэчаіснасьць.

Але вернемся да тэмы. Вызначэньне колькасьці расстраляных (100-120 тысячаў) мае навукова-мэтадалагічнае абгрунтаваньне і шчыльную прывязку да выяўленых і бачных магіл. Лічба 250 тысячаў вынікае з гэтай жа мэтадалёгіі і з агульнай ацэнкі магільніка, улічваючы розны аб'ём расстрэльных ям, зьнівэліраваныя і разбураныя пахаваньні, якіх рэальна было амаль у два разы больш.

Такая ёсьць археалагічная ацэнка колькасьці расстраляных людзей, якая пагрунтавана на доказнай базе большай колькасьці рэальных магіл, пазьнейшай выемкі парэшткаў з магільных ям і адпаведнай у сувязі з гэтым большай колькасьці пахаваных у кожнай магіле.

Навука грунтуецца на фактах, зьявах і заканамернасьцях (якія выяўляюцца праз экспэрымэнт). Тым часам для юрыдычнага падыходу важная найперш матэрыяльная ўліка злачынства, тое, што рэальна ёсьць. Юрысты падлічылі толькі тое, што знойдзена ў магільных ямах, і памножылі на рэальна бачную колькасьць магіл. Атрымалася ў сярэднім 30 тысячаў ахвяр. Зразумела, што гэта не адпавядае рэальным масштабам людабойства ў Курапатах. Але юрыдычны падыход вымушаны зыходзіць з сваёй сьціслa абазначанай базы доказаў, якія не павінны выклікаць пярэчаньняў, падвойных меркаваньняў і дапушчэньняў, і на аснове якой адназначна даказваецца забойства.

Для грамадзтва істотная ёсьць факталагічная доказнасьць зьявы і адказ на пытаньне: што адбылося. Для суду

важнае ёсьць прадметнае сьведчаньне злачынства, каб выдаць справядлівы вэрдыкт пакараньня.

Гэта што датычыць несупадзеньня рознага роду інфармацыі пра колькасьць забітых у Курапатах. Тут няма супярэчнасьці. Розныя задачы. Кожная задача мае сваё абгрунтаваньне. Але агулам, фактычна, энкавэдзісты забілі тут каля чвэрці мільёна чалавек.

Адзначу некаторыя зьвесткі, што цікавяць сучасных людзей, якія не чыталі дасьледваньняў.

Афіцыйна археалагічныя раскопкі магілаў і эксгумацыя парэшткаў рабіліся мной і маімі калегамі з 6-га па 15-га ліпеня 1988 года па запыту пракуратуры БССР у Інстытут гісторыі Акадэміі Навук БССР у рэчышчы расследваньня крымінальнай справы аб выяўленьні пахаваньняў людзей у лясным масіве Курапаты. У археалагічны атрад мной былі запрошаны навуковы супрацоўнік Мікалай Крывальцэвіч і асьпірант Алег Іоў (цяпер дактары навук).

У час раскопак вяліся дзёньнікавыя запісы археолагамі і асобна пракуратурай і МУС. Дасьледваньні афіцыйна назіралі прадстаўнікі грамадзкасьці (камуністы-камсамольцы) і прадстаўнікі мясцовай улады (дэпутаты сельсавета).

Пасьля заканчэньня дасьледваньняў, аналізу і вывучэньня матэрыялаў была падрыхтаваная навуковая археалагічная справаздача, абмеркавана ў Інстытуце гісторыі і перададзена ў пракуратуру з усімі знаходкамі.

Частка касьцей і рэчаў з раскопак былі ўзяты на медыцынскую экспэртызу. У кожным раскопе ў мацерыковым грунце намі была выкапана траншэя альбо шурф глыбінёй да мэтра, куды былі складзены ўсе рэчы і косьці, не ўзятыя для медыцынскай экспэртызы і навуковага дасьледваньня. Пасьля гэтага раскоп засыпалі.

Хто мог выкапаць парэшткі з магіл у канцы саракавых і дзеля чаго? Верагодна, гэта зроблена па рашэньні кіраўніцтва КГБ, каб замесьці сьляды злачынства на будучыню. Якраз у 40-х гадах раскопвалі Катынь, і Захад не паверыў сталінскім фальсыфікацыям. Такія дзеяньні (замятаньне сьлядоў) цалкам у стылі рускага НКВД-КГБ-ФСБ. Тое самае цяпер адбываецца ў пуцінскай Расеі: зьнішчаюць дакуманты аб расстрэлах і месцы злачынстваў. Куды вывозілі косьці з курапацкіх магіл – невядома. (Некаторыя сьведкі сцьвярджалі, што быццам бы ў парослае балота непадалёк ад Курапатаў. Але такое малаверагодна.).

Апэрацыя выемкі парэшткаў была зроблена таемна, але неахайна, і я разумею асаблівую нянавісьць гэбістаў да маёй асобы, калі была раскрыта іхняя подлая таямніца.

Яшчэ ёсьць вельмі значная для нас, беларусаў, тэма аб сакральнасьці Курапатаў. Гэтае паняцьце павінна быць добра асэнсавана, бо зьвязана зь лёсам Беларускай нацыі і новага беларускага Адраджэньня ў час, які быў крытычны для грамадзтва і народнага існаваньня.

*27 чэрвеня 2018 г.*

# РЭПЛІКА АБ РАСЕЙСКАЙ ГІБРЫДНАЙ ВАЙНЕ

Гібрыдная акупацыя Беларусі знутры – гэта тая форма вайны, якая прывяла да ўлады Лукашэнку. Пра гэта намі гаворыцца з 1994-га года. Але адсутнасьць нацыянальных беларускіх СМІ, захоп іх рускай агентурай не далі магчымасьці прабіцца гэтым ведам нават ў палітычныя вяршыні грамадзтва, хоць пісалася мноства артыкулаў аб унутраннай акупацыі Беларусі, друкаваліся кнігі. Веды ў шырокае разуменьне не прабіліся.

Маскоўская агрэсія супраць Украіны, захоп Крыма і Данбаса, аднак, паспрыялі адэкватным поглядам на рэчаіснасьць і ў часткі беларускага грамадзтва. Украінцы і шмат якія беларусы ўбачылі, якім разбуральным спрутам зьяўляецца Расея на целе чалавецтва. Вечнае бядотнае існаваньне рускіх людзей і рабская псіхалогія, калі яна становіцца агрэсіўнай ідэалогіяй, яна робіцца небясьпечнай разбуральнай сілай. Сацыяльны і палітычны вопыт камунізма (ідэалогіі нізоў) быў катастрафічны для чалавецтва.

Пасьля ўпадку ідэалогіі камунізма зьявілася імпэрская ідэалогія «русского мира». Сваім ворагам гэтая агрэсіўная ідэалогія лічыць усё чалавецтва.

Палітыка «русского мира» была сфармулявана ў агульных рысах у жніўні 1995 года ў так званай дактрыне Ельцына аб зьнешняй палітыцы Расеі. Да слова, шпіёнска-дыверсійнай мэтодыкай захопу Расея карыстаецца здаўна, найбольш характэрна – з ХУІІІ-га стагоддзя (падзелы Рэчы Паспалітай). З прыходам да ўлады КГБ палітыка «русского мира» імкліва набірае агрэсіўныя формы расейскай гібрыднай вайны.

Трэба мець на ўвазе, што ў заходнім сьвеце няма дзяржавы і няма моцы, якая магла б на ўзроўні супрацьстаяць расейскай сіле і тактыцы вядзеньня гібрыднай вайны. Таталітарная арганізацыя расейскай дзяржавы дае магчымасьць ўсе галіны ўлады і грамадзтва (прэсу, друк, радыё, тэлебачаньне, спорт, бізнэс, суды, пракуратуру, крымінал,

выканаўчую і заканадаўчую уладу, войска, паліцыю, спэцслужбы і г. д.) – усё падпарадкаваць адзінай дзяржаўнай палітыцы, выканаўчай і арганізуючай сілай якой зьяўляюцца спэцслужбы (найперш ГРУ і ФСБ). На дэмакратычным Захадзе такая структура дзяржавы не існуе і ў бліжэйшай будучыні ў прынцыпе ня можа быць. Па сваёй прыродзе заходняя сістэма дзяржавы ня ў стане нават арганізаваць палітыку інфармацыйнай вайны (Тым больш кшталту расейскай). СМІ там выконваюць прынцыпова іншыя функцыі, чым ў Расеі (і ў колішнім СССР).

Падрыхтоўка Расеі да захопніцкай вайны – гэта перш за ўсё пагроза Беларусі.

Патрэбна дэталёвае вывучэньне становішча і мабілізацыя людзей на гатовасьць да адбіцьця расейскай агрэсіі супраць Беларусі, якая рыхтуецца бесперапынна.

*1 жнівень 2018 г.*

# ЗНАЧЭНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

Пачатак XX-га стагоддзя, бурнае разьвіцьцё прамысловасьці, тэхналёгій, транспарту, прыватнай ініцыятывы, капіталу і сацыялістычных ідэй, накіраваных на масавую сьвядомасьць, выклікалі ўзрушэньне разумаў, веру ў тое, што можна зьмяніць сьвет, палепшыць сваё існаваньне. На перашкодзе стаялі несвабода, імпэрская тыранія, нацыянальны прыгнёт і масавая бедната людзей без уласнасьці і пэрспэктывы.

Крызіс апошніх эўрапэйскіх імпэрый стварыў перадумовы новай вясны народаў, апошняй хвалі нацыянальных рухаў за самавызначэньне, якая зьмяніла сьвет.

Той час, узровень яго пасіянарнасьці, крыху недаацэнены ў нашай гісторыі і ў нашых уяўленьнях. Грамадзтва чакала новага пасеву. І там, дзе былі сейбіты, вырастаў плён. “Наша доля” легальная беларуская газэта, якая выйшла ў 1906 годзе ў Вільні 10-тысячным тыражом, была разабрана ўмомант, выклікала ў горадзе сапраўдны ажыятаж.

Выступ тэатра Ігната Буйніцкага ў 1911 годзе ў клубе Палескай чыгункі ў Вільні выліўся ў маніфэстацыю нацыянальнай любові. Заля ў некалькі тысячаў асоб была перапоўнена, людзі стаялі пад вокнамі. Калі адчынілася заслона і хор засьпяваў гімн Янкі Купалы “А хто там ідзе?” увесь народ устаў, усе плакалі наўзбом. Гэта катарсіс. Рэдкая зьява. Народ чуваў роднае.

Першая сусьветная вайна, агульнае гора, якое звалілася на Беларусь, абвастрыла дачыненьні і выклікала салідарнасьць грамадзтва, якая шматкроць узрасла пасьля зьвяржэньня рускага цара і пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі. Па ўсёй Беларусі зьявіліся грамадзкія, культурніцкія, дапамогавыя, палітычныя арганізацыі, гуртуюцца беларусы-вайскавікі на франтах вайны.

У ліпені 1917 года на зьезьдзе беларускіх грамадзкіх і палітычных арганізацыяў ствараецца **Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў**, якая імкнулася аб’яднаць усе беларускія нацыянальна-дэмакратычныя сілы. У пачатку

кастрычніка 1917 года да Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў далучылася Цэнтральная Беларуская вайсковая Рада, якая аб'ядноўвала вайскавікоў-беларусаў на ўсіх франтах і Балтыйскага флоту. Разам яны ўтварылі **Вялікую Беларускую Раду** – кіруючы цэнтр усіх беларускіх сіл. Гэта была магутная сіла, 27 тысячаў асоб.

Вялікая Беларуская Рада пачала рыхтаваць Усебеларускі Кангрэс, які мусіў бы ствараць беларускую ўладу і вызначыць дзяржаўную будучыню Беларусі.

Кангрэс адчыніўся ў Менску 5 сьнежня 1917 года па Юльянскім календары ў абстаноўцы незвычайнага нацыянальна-дэмакратычнага ўздыму. Прысутнічалі 1872 дэлегаты зь якіх 1167 з правам рашаючага голасу. Былі прадстаўлены ўсе мясьціны Беларусі ад Беластока і Вільні да Смаленска, усе нацыянальныя мяншыні і ўсе партыі і арганізацыі, у тым ліку прадстаўнікі ад розных галінаў вытворчасьці і дзяржаўных службаў ( напрыклад, паштавікі, чыгуначнікі, настаўнікі і г. д.). тут адчуваецца каласальная арганізацыйная праца і самае шырокае дэмакратычнае прадстаўніцтва. На такім узроўні тады і потым нічога падобнага ў былой Расеі арганізавана не было.

І цяпер ізноў пра атмасфэру грамадзтва і дух часу. На ўсіх франтах вайскавікі-беларусы яднаюцца і горача падтрымліваюць Усебеларускі Кангрэс. Газэта "Беларуская Рада" ад 8-га сьнежня піша: "Зьезд вайскавікоў-беларусаў Румынскага фронту горача вітае агульнабеларускі зьезд і верыць, што толькі цеснай нацыянальнай арганізацыяй, стварэньнем аўтарытэтнай краёвай улады і як апоры яе – моцнага нацыянальнага войска, можна ўратаваць родную краіну ад пагрозы падзелу. Зьезд патрабуе : 1) неадкладнага аб'яўленьня беларускай дэмакратычнай рэспублікі, 2) беларусізацыі тых дывізіяў і карпусоў, якія да вайны былі дыслакаваныя ў Беларусі"

Ці, напрыклад, тэлеграма ад Беларускай Рады XII-й арміі ў стаўку Крыленку і ў Петраград Камісару па нацыянальных справах І.Сталіну: "Дык калі Вы шукаеце ўлады ня ў праўдзе, а ў сіле, то мы, Беларусы, Вам у ёй адмаўляем і патрабуем неадкладнага вырашэньня беларусізацыі, у адваротным выпадку, стыхійны рух арміі беларусаў пагражае выліцца ў самыя непажаданыя зьявы. Беларусізацыя, якая пачалася рэвалюцыйным чынам, закончыцца адыходам на сваю тэрыторыю. Ведайце, сіла ў народзе беларускім ня зьнікла". Подпіс: "Старшыня Беларускай Рады XII-й арміі Макарэвіч".

У дзень адкрыцьця Кангрэсу газэта беларускіх вайскавікоў піша, што рашэньняў зьезду чакаюць шмат якія краіны і задаецца пытаньнем, цытата: "Ці пойдзем мы ў духу агульнарасейскім па шляху анархіі і беспрасьветнай цемры, ці ўсё ж мы, беларусы,

пойдзем новым шляхам, шляхам абароны правоў чалавека і яго здабыткаў і перш за ўсё па шляху абароны ўжо напалову разбуранай Беларусі”. Як бачым, ёсьць рэчы, якія і за сто гадоў не зьмяніліся ў гэтым сьвеце.

Зьезд адчыніўся ў атмасфэры незвычайнага ўзрушэньня. “Ва ўсіх прамовах – аграмадны ўздым, - нарэшце прачнулася родная краіна”. “Беларусы павінны самавызначыцца, – усклікаў вядомы беларускі левы грамадавец і бальшавік Фабіян Шантыр. – Нам ня трэба рабства агульнарасейскай дэмакратыі (апладысменты) – у нас ёсьць свая дэмакратыя, свае беларускія бальшавікі. Мы павядзем Беларусь не шляхам дэмагогіі, а шляхам сапраўды дэмакратычным.” (Даведка. Фабіян Шантыр быў растраляны рускімі бальшавікамі ў 1920 годзе па асабістым загадзе Л.Троцкага).

Гучэлі воклічы: “Няхай жыве Беларусь!” “Няхай жыве Беларуская дэмакратычная рэспубліка!” “Няхай жыве беларуская нацыянальная армія!”. Граў духавы аркестар. Сьпяваў гімны беларускі хор.

Далей цытата па расейску з газэты таго часу:
“Но этот величественный день под конец был омрачен неслыханным нахальством представителя, по его словам, латышского народа, а вернее просто нахального большевика, который предложил нам, истинным сынам многострадальной, но отныне свободной Белорусской нации, он имел дерзость предложить нам выбросить наше белорусское знамя. Какая бульварная дерзость! Какое оскорбление всему белорусскому народу! Не хорошую услугу оказал большевикам их представитель. Крики возмущения, поднятые кулаки, крики: «вон» и «долой» были ответом на его речь.

Красивая и трогательная сцена была, когда после этого вышли вперед солдат, матрос и генерал, крепко сжавши руки друг другу, и когда старый генерал и революционер Алексеевский стал на колено и поцеловал то знамя, которое только что было осмеяно безумцем.»

Тут зазначу, што ў 60-х гадах, слухаючы расповеды ўдзельнікаў Беларускага Кангрэсу, мяне, як і іх, найбольш уразіў якраз гэты сымвалічны ўчынак генэрала Алексіеўскага. Тут узьнікла шляхам зьбегу абставінаў такая сітуацыя, калі адбылася публічная сакралізацыя нацыянальнага сьцяга. У той час Бел-чырвона-белы сьцяг імгненна распаўсюдзіўся па ўсіх франтах і арганізацыях, дзе былі беларусы. Гэтая раптоўнасьць межавала зь містыкай – сьведчыла пра нацыянальны дух беларусаў.

Інфармацыя ў газэце “Беларуская Рада”, якая друкавала пратакольны ход Кангрэса, часам гучыць як велічны панегірык, прамоўлены высокім стылем.

“Госпадзе, які настрой ва ўсіх! – усклікае відавочца, -- сапраўды ўсе перажываюць вялікаўрачыстыя дні, гістарычныя. Я глыбока веру, што шчырыя сэрцы беларускія зьліваюцца ў адно і зробяць тую справу, якая будзе адбіта на першых старонках Беларускай гісторыі залатымі літарамі”.

Беларускі кангрэс меў надзвычай шырокае ўсеабдымнае прадстаўніцтва, скліканае на дэмакратычнай аснове. Кангрэс быў задуманы як сувэрэнная легітымная крыніца ўлады Беларусі, якая выконвала, фактычна, функцыі народнага парляманту і канстытуцыйнага воргану. Дэлегаты выбралі Прэзыдыум і старшыню Зьезда, стварылі Раду старэйшын па прынцыпу дэлегаваньня, дзеля хуткаснай апрацоўкі пратаколаў і прыняцьця рашэньняў. Дэлегаты падзяліліся на восем сэкцый і ў кожнай сэкцыі стварылі шэраг камісіяў па актуальных тэмах дзяржаўнага будаўніцтва. Былі сэкцыі палітыка-нацыянальная, аграрная, эканамічна-фінансавая, культурна-асьветніцкая, дзяржаўна-праўная, вайсковая, па арганізацыі ўлады і г.д. Секцыі і камісіі працавалі ва ўсіх памяшканьнях гарадзкога тэатра і нават за яго межамі. Вынікі працы сьцякаліся ў Прэзыдыум і Раду старэйшын, абмяркоўваліся на пленарных паседжаньнях. Так працуе парлямант. Калі ўжо была гатовая рэзалюцыя, складзеная ў форме канстытуцыйнага дакуманту, мясцовыя рускія бальшавікі, якія трымалі ўладу ў Менску (Абласны Выканаўчы камітэт Заходняга Фронту) акружылі тэатр браневікамі і ўвялі ў будынак войска, якое штыкамі стала выштурхоўваць людзей на вуліцу.

Аднак Зьезд пасьпеў прыняць і прагаласаваць першы з 15-ці пунктаў рэзалюцыі, у якім сьцьверджана, што **“Першы Усебеларускі Зьезд пастанаўляе: неадкладна ўтварыць са свайго складу ворган краёвай улады ў асобе Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх, рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем”.**Тут жа была абраная Рада Кангрэсу (71 асоба), якая павінна была спаўняць дзяржаўную ўладу і прывесьці да стварэньня Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Рада атрымала такія паўнамоцтвы.

У гэты ж дзень Рада сабралася падпольна ў клюбе чыгункі пад аховай чыгуначнікаў і стварыла Выканаўчы Камітэт Рады, які мусіў бы арганізацыйна ажыцьцяўляць рашэньне Кангрэсу.

18 лютага 1918 года немцы пачалі раптоўнае наступленьне па ўсім фронце. Расейцы ў паніцы ўцякалі, рабуючы маёмасьць (і што цікава, пакідаючы зброю). Выканкам

Рады Кангрэса сабраўся ўжо 19 лютага і пастанавіў узяць уладу ў свае рукі. Тут жа была створана беларуская вайсковая дружына пад кіраўніцтвам Канстанціна Езавітава. Беларусы ўзялі горад пад свой кантроль, разагнаўшы розныя рускія і польскія банды. 20 лютага Выканкам Рады Кангрэсу сфармаваў Першы Беларускі ўрад (Народны сакратарыят) на чале зь Язэпам Варонкам. Была падрыхтавана 1-я ўстаўная грамата беларускай улады "Да народаў Беларусі" і абнародвана 21 лютага. У тэксьце сказана: **"Выканаўчы Камітэт Рады Першага Усе беларускага Зьезду, даданы прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных мяншыняў, зьдзяйсьняючы заданьні Зьезду, абвяшчае сябе тымчасоваю Уладай на Беларусі".**

"Тымчасовую народную ўладу Краю, якая паставіць сабе заданьні абароны і зацьверджаньня здабыткаў рэвалюцыі, будзе зьдзяйсьняць створаны намі **Народны Сакратарыят** Беларусі".

У гэты ж дзень у Менск зайшлі першыя нямецкія аддзелы. І першае, што яны сталі рабіць – гэта сарвалі беларускі сьцяг з будынку Выканкама Рады і пачалі адбіраць беларускую маёмасьць.

3-га сакавіка быў падпісаны антыбеларускі ганебны Берасьцейскі мір. Сітуацыя зьмянілася ў горшы бок. Патрэбныя былі дакладныя і рашучыя захады з боку беларусаў, якім нават не далі магчымасьці ўдзельнічаць у мірных перамовах.

На тэрыторыі Беларусі вось ужо чатыры гады ішла вайна. Беларусь ні з кім не ваявала. На яе зямлі і за яе кошт збройна вырашалі свае інтарэсы расейцы з немцамі, потым шматкроць расейцы з палякамі. Краіна была вынішчана дазваньня. Такая сітуацыя пры адсутнасьці беларускай улады, дзяржавы і войска прыводзіла да зьнішчэньня народу і падзелу тэрыторыі. Першы такі падзел несамавызначанай зямлі адбыўся ў выніку Берасьцейскага міру. Ніхто ня быў зацікаўлены ў прадстаўніцтве беларусаў на мірных перамовах. Для немцаў з расейцамі наша зямля была прадметам гандлю; усе суседзі спадзяваліся за кошт ляжачай Беларусі павялічыць свае тэрыторыі. Сяброў і прыхільнікаў у гэтым "замірэньні" не было.

Беларусам трэба было тэрмінова ствараць дзяржаву, уладу і сілу. 9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы Камітэт 1-га Усебеларускага Кангрэсу, спаўняючы яго волю, выдае 2-ю Устаўную канстытуцыйную грамату "да народаў Беларусі", дзе першым пунктам было запісана: **"Беларусь у рубяжох разсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай".**

Тым ня менш у новых абставінах Берасьцейскага міру сітуацыя была няпэўнай і залежнай ад галоўнага ворага і захопніка – бальшавіцкай Расеі. Трэба памятаць, што Беларускі

Кангрэс прызнаваў бальшавіцкі ўрад Леніна і на Зьезд у сьнежні 1917 года запрасіў усіх, у тым ліку і бальшавікоў. Не прызнаваў Кангрэс толькі Абласны выканаўчы Камітэт Заходняга Фронту, які ня меў дачыненьня да Беларусі (але ў рэальнасьці гэта тут якраз і была расейская акупацыйна-бальшавіцкая ўлада).

Далей (пасьля Берасьцейскага падзелу Беларусі) Беларуская Народная Рэспубліка ўжо не магла быць у складзе Расеі і залежыць ад Масквы. Яе ліквідавалі б сілай і адміністрыцыйным шляхам.

Адміністрацыйная залежнасьць ад Расеі тут нонсэнс, самагубства, абсурд.

25-га Сакавіка 1918 года прымаецца Трэцяя ўстаўная грамата БНР, ад якой пачынаецца новы адлік беларускай нацыянальнай гісторыі.

Вось гэтыя найважнейшыя словы:

**“Мы, Рада Беларускай Народнай Республікі, ськідаем з роднаго краю апошнее ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскіе цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтаго часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай”.**

Берасьцейская мірная дамова скасоўвалася. Дзяржаўнай мовай аб’яўлена беларуская мова. Сталіцай БНР стаў горад Менск.

Зразумела, што ў гэтых умовах ніхто юрыдычна не хацеў прызнаць БНР, хаця фактычнае прызнаньне на ўзроўні супрацоўніцтва, місій, прадстаўніцтва, кансуляту было, праўда, няшмат (фактычна, усё рахавалася на пальцах адной рукі). Становішча не зьмянілася і пасьля рэвалюцыі ў Нямеччыне і скасаваньня Берасьцейскага міру. Ворагі Беларусі рыхтавалі новы падзел нашай краіны.

Аглядаючы і аналізуючы дзейнасьць Рады БНР і ўрадаў БНР у пэрыяд акупацый, асабліва ў 1918-1921 гг., уражвае, зь якой упартасьцю і пасьлядоўнасьцю ў найцяжэйшых умовах вайны і варожай палітыкі ўсе яны імкнуліся замацаваць, сьцьвердзіць БНР, дамагчыся яе прызнаньня міжнароднай супольнасьцю, суседзямі і вялікімі дзяржавамі. Выкарыстоўвалі кожную магчымасьць, кожную канфэрэнцыю, кожную перамену.

Зьвярталіся зь лістамі да Пілсудзкага, да Сталіна, да ўрадаў Латвіі і Летувы, да нямецкага кайзэра, да ўкраінцаў і эстонцаў, спатыкаліся з першымі асобамі акупантаў (Пілсудзкім, Сталіным), стваралі новыя ўрады і кааліцыі, разыходзіліся і зноў зыходзіліся, але справы сьцьверджаньня БНР не кідалі. Тут усе дзейнічалі ў адно. З гледзішча той сітуацыі і палітыкі – іхняя дзейнасьць у тых умовах была палітычным гераізмам, рэдкім па

сваёй мэтанакіраванасьці. Яны трымалі сьвяты агонь надзеі, запалены на Вялікім сходзе. І датрымалі яго. Ён не пагас і загарэўся зноў у 90-х. І мы ведаем, што першапраходцы гэтага шляху заплацілі за яго сваімі жыцьцямі. І цяпер давайце глянем, што гэта ўсё абазначала ў кантэксьце жыцьця і разьвіцьця беларускай нацыі, пра што сьведчыла.

Акт 25 Сакавіка і тыя падзеі засьведчылі **перамогу Беларускай нацыянальнай ідэі**, якая рэалізуе сябе ў стварэньні нацыянальнай дзяржавы.

Тое, што гэтая дзяржава цалкам не рэалізавалася ў практычным сэнсе справы, не мяняе становішча і не падважвае нашых высноў, бо незавершанасьць яе дзяржаўнага будаўніцтва зыходзіла не з унутраных прычын, а з умоваў акупацыі, перашкодаў і забаронаў на дзейнасьць. Тое, што было зроблена ў тых умовах, можна ацаніць як вынік, дасягнуты звыш магчымасьцяў. У БНР былі намечаны ўсе пачаткі сучаснай дзяржавы і частка іх рэалізавана насуперак неспрыяльнай рэчаіснасьці.

Далейшае спыненьне разьвіцьця БНР было зьвязана з маскоўскай акупацыяй Беларусі і вымушанай эміграцыяй Ураду і Рады БНР. Прэцэдэнт стварэньня Беларускай незалежнай дзяржавы адбыўся. Факт незалежнасьці БНР **стаў чыньнікам разьвіцьця нацыі і пунктам адліку яе новай дзяржаўнай гісторыі.**

Ад часу аб'яўленьня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі наша гісторыя разьвівалася як дзяржаватворчы працэс. Беларуская дзяржава стала звышзадачай нацыянальнага існаваньня. **Без 25 Сакавіка 1918 года не было б 25 Жніўня 1991-га і паўнавартаснай дзяржавы Рэспублікі Беларусь**. Адраджэнцы 90-х працягнулі справу БНР і рэалізавалі яе ў незалежнай дзяржаве.

Аб’яўленьне незалежнасьці БНР сьцьвердзіла адначасна **нацыянальную ідэалёгію новай краіны**. Гэтая ідэалёгія называецца “Адраджэньне”. (Заўважу, што пры савецкай акупацыі гэтае слова было забаронена). Сутнасьць нацыянальнай ідэалёгіі “Адраджэньня” ў сьцьверджаньні пабудовы новай дзяржавы Беларусі на грунце культуры і гісторыі нашай гістарычнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. Ідэалёгія “Адраджэньня” была падтрымана Беларускім Народным Фронтам “Адраджэньне” і дапамагла стварыць незалежную дзяржаву “Рэспубліка Беларусь”.

Эпоха стварэньня БНР паказала высокі ўзровень беларускай актыўнасьці і сьведамасьці грамадзтва. Пасіянарны ўзровень беларусаў, іхнае самаўсьведамленьне, адчуваньне салідарнасьці і агульнай радзімы было дастаткова высокім, каб

падтрымаць ідэю стварэньня нацыянальнай дзяржавы і дзяржаўнай незалежнасьці ў нацыянальнай палітыцы. Усё гэта пацьвердзілі палітычныя і грамадзкія падзеі таго часу. Стварэньне незалежнай дзяржавы БНР натуральна вынікала з грамадзка-палітычных абставін, у якіх жыло і разьвівалася беларускае грамадзтва.

Трэба адмаўляцца ад сялянска-народніцкіх стэрэатыпаў таго часу пра цёмных сялян, “тутэйшых”, ды ад літаратурнага плачу пра народ, што “сьляпы, нібы крот”. Былі і сьляпыя, але былі і відушчыя, што стварылі БНР і нават аддалі за яе жыцьці, баронячы Беларусь ад Маскоўскай арды пад Слуцкам, Вызнай ды Грозавым.

Такі ўзровень нацыянальнай пасіянарнасьці, як у 1917-1920 гг., быў у беларусаў яшчэ толькі ў пачатку 90-х гадоў, у часы стварэньня Беларускага Народнага Фронту. Як і ў 1918-м зьява замацавалася стварэньнем новай незалежнай беларускай дзяржавы.

Сумяшчэньне чыньнікаў нацыянальнай актыўнасьці і салідарнасьці беларусаў са зьместам акту 25 Сакавіка і з аб’яўленьнем незалежнай дзяржавы сьведчыць пра **канчатковае сфармаваньне новай Беларускай нацыі і пра гістарычнае замацаваньне назвы новай нацыянальнай краіны – Беларусь.**

Усе закіды і роспачныя ацэнкі пра нібыта “насфармаванасьць”, “недапечанасьць” нацыі – гэта рыторыка, якая вынікае з акупацыйнага стану, з акупацыйнай палітыкі і прапаганды (у тым ліку і з цяперашняй разбуральнай палітыкі ўнутаранай акупацыі).

Беларуская нацыя канчаткова сфармавалася (дарэчы, як і ўкраінская і прыбалтыйскія нацыі) у першай чвэрці XX стагоддзя. У той час адбылася апошняя хваля эўрапейскай нацыятворчасьці. Фармальны вынік яе ідэйнага завяршэньня ў Беларусі – 25 сакавік 1918 года.

Гэты ж дзень зьяўляецца і фармальным пунктам адліку сусьветнага прызнаньня новай назвы краіны – Беларусь.

Зьмена этноніма адбывалася ў складаных абставінах, але ў цэлым характарызавалася як натуральны працэс фармаваньня нацыі і нацыянальнай літаратуры ва ўмовах татальнай забароны беларускай мовы і непрызнаньня яе расейскімі царскімі ўладамі.

Рашаючае слова сказала беларуская літаратура як першасная нацыятворная чыннасьць. У нацыябудаўніцтве ў абставінах, якія склаліся, назоў Беларусь – гэта быў аптымальны выбар. Праблемы якія ўзьнікаюць у сувязі са спалучэньнем старой назвы «Літва» і новай «Беларусь» -- гэта перш за ўсё ёсьць праблемы палітыкі і ўплыву антынацыянальнага рэжыму

ўлады, але не этнанімікі, не нацыялогіі. Нацыянальная ідэалёгія «Адраджэньня» дае адказ і спосаб збалансаванага вырашэньня назыўнога пытаньня.

Актам 25 сакавіка былі акрэсьленыя асноўныя дэмакратычныя свабоды новай краіны ў сацыялістычным іх разуменьні. Істотным для нацыянальнага існаваньня дзяржавы было, аднак, **азначэньне тэрыторыі і межаў Беларусі,** адлюстраваных пазьней на мапе. Фактычна гэта мапа этнічнага разсяленьня беларусаў і гучаньня беларускай мовы, якая супадае цалкам зь межамі Вялікага Княства Літоўскага бяз Жмудзі і Украіны.

Аб'яўленьне незалежнасьці БНР сьцьвердзіла **новую сталіцу дзяржавы – горад Менск.** Гэта быў вымушаны крок,які вынікаў з абставінаў. З прычыны вайны і прыфрантавога становішча Менск моцна павялічыўся, стаў цэнтрам грамадзка – палітычнага жыцьця. Вільня з 1915 года была аддзелена лініяй фронта і апынулася ў глыбіні нямецкай акупацыі. Уплыў яе змалеў. Стаўка на Менск была правільнай, давала магчымасьць уплываць на падзеі і захаваць усю Беларусь. Небходна было нэўтралізаваць тут (у Менску) антыбеларускія сілы, ня даць ім магчымасьць кансалідавацца. Арганізацыя Беларускага кангрэсу ў Менску – выдатная ў гэтым сэнсе беларуская палітычная перамога.

З другога боку пакіданьне Вільні на пэрыферыі беларускай палітыкі спараджала пагрозу яе страты ў будучыні. Што і сталася. Гэта каласальны ўдар па беларускай нацыі. Але тады, у 1918, не абраўшы Менск, можна было страціць яшчэ больш.

Надзвычай важным дасягненьнем акту 25 сакавіка стала **сьцверджаньне і сакралізацыя дзяржаўнага гістарычнага гэрба Пагоня і Бел-Чырвона-Белага дзяржаўнага сьцяга.** Прытым прыняцьце дзяржаўных сімвалаў адбылося на высокім геральдычным узроўні. Тут эўрапейская геральдычная культура

Гэрб Пагоня быў шырока вядомы і тут не ўзьнікала пытаньняў.

Лічыцца што сучасную кампазыцыю Дзяржаўнага Бел-Чырвонв-Белага Сьцяга прапанаваў Клаўдыюш Дуж-Душэўскі. Істотна ў гэтай кампазыцыі тое, што зроблена яна па класічных правілах гэральдыкі. У Сьцягу скарыстаныя асноўныя колеры гэрба Пагоня – белы і чырвоны (як і патрабуе геральдыка). Зь

іншага боку бел-чырвона-белае палатно (ці інакш – белае палатно з чырвонай паласой) – гэта мадыфікацыя сімвала сьвятога Юрыя, які звычайна пазначаецца ў вобразе чырвонага крыжа на белым фоне. Зь бел-чырвона-белай харугвай ёсьць шмат абразоў Ісуса Хрыста, бел-чырвона-белая апаска ўжываецца ў аблачэньні праваслаўных і вуніяцкіх епіскапаў, бел-чырвона-белыя колеры тыповыя для аўтэнтычных беларускіх народных строяў. Усё гэта кажа пра глыбокі гістарычны кантэкст Беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга сьведчыць пра геральдычную культуру дзяржаўных сімвалаў БНР.

У трэцяй устаўной грамаце сьцьверджаны **найважнейшы чыньнік існаваньня Беларускай нацыі – дзяржаўнасьць беларускай мовы** ў БНР. Дзеячы БНР усьлед за Багушэвічам цудоўна разумелі, што Беларуская нацыя – гэта Беларуская мова. Тут асаблівасьць зьявы. Яе, дарэчы, на сёньняшні дзень выдатна ведаюць усходнія ворагі Беларусі, але ня ўстане зразумець некаторыя беларусы, прапушчаныя праз расейскія школы.

Аналізуючы ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі зьвяртаем увагу на юрыдычна бездакорную працэдуру яе арганізацыі і легітымнасьць існаваньня.

Ланцужок такі. Склікаецца Беларускі кангрэс з найшырэйшым прадстаўленьнем усіх тэрыторый, партый, арганізацыяў, нацыянальных мяншыняў і групаў насельніцтва. Каласальнае народнае прадстаўніцтва. Перад збройным разгонам Кангрэс выбірае Раду Усебеларускага Кангрэсу, якая атрымала юрыдычныя паўнамоцтвы на далейшую пабудову беларускай дзяржавы. Потым Рада стварае Выканкам. Выканкам аб'яўляе сябе ўладай у краіне, стварае Ўрад, стварае Беларускую Народную Рэспубліку, якая заяўляе пра сваю незалежнасьць. Легітымнасьць Рады БНР не падважальная.

Дзеячы і заснавальнікі БНР паказалі пакаленьням наперад добры прыклад як трэба адстойваць інтарэсы Беларусі. Але што характэрна гэтае слова «інтарэсы» амаль не гучыць. Усюды і па сёняшні дзень гаворыцца пра «ідэалы». Пра ідэалы, якія сьцвердзіла Беларуская Народная Рэспубліка. Гэтыя ідэалы: **вольная Беларусь, незалежнасьць, беларуская мова, дэмакратыя, непадзельнасьць Айчыны.**

Утварэньне і аб'яўленьне незалежнасьці БНР сьцьвердзіла **гістарычна новую беларускую нацыю, новую беларускую**

**дзяржаву, новую сталіцу, гімн і дзяржаўныя сімвалы, гістарычную тэрыторыю і гістарычную пэрспэктыву беларускага народа.**

Сэнс гэтай зьявы можна выкласьці ў двух славах, якія я прапаную адліць золатам і выбіць на камені, дзе напісаць: **«Беларусь – навечна!»**

Так будзе і так павінна быць.
Жыве Беларусь!

*25.03 2018 г.*

# АБ ІНФАРМАЦЫІ

*(Прачытана на травеньскім Сойме КХП – БНФ і БНФ “Адраджэньне”)*

***Колькасьць абразьлівай для Беларусі тэрміналогіі “беларускі рэжым”, “беларуская турма”, “беларуская ўлада” і г. д. у дэм. СМІ павялічылася, ужываецца толькі і выключна, і, нібы са смакам. Адэкватных назоваў няма. Гэта вельмі сымптаматычны доказ – які характарызуе шмат што. Гэта ж як трэба не шанаваць Беларусь, каб так сябе выяўляць!***

* * *

...У сувязі са зрухам у сьвядомасьці (які адбываецца) у людзей ўзьнікае патрэба ў праўдзівай інфармацыі. Яны зьвяртаюцца да сродкаў массавай інфармацыі, але трапляюць тут ў сфэру інфармацыйнай вайны, сутнасьць якой дрэнна ўсьведамляюць, адказаў на пытаньні не знаходзяць. Прытым друк, эфір і сеціва ня толькі напоўнены дэзінфармацыяй па галоўных каштоўнасных пытаньнях жыцьця і палітыкі, яны ўтопленыя яшчэ ў балоце ўсялякай лухты, якая падаецца штодзень пад выглядам інфармацыі і, практычна, нікому не патрэбная. Гэта ёсьць мэтад зыпаўненьня сьведамасьці людзей сурагатамі.

У сьвеце інфармацыйнай вайны сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі і зьвязаныя зь Беларусяй, рана ці позна, ускосна ці наўпрост прыдуць (хоць бы часткова) да прапаганды ўзурпатара ўлады. Гэта абумоўлена некалькімі чыньнікамі:

**1)** асаблівым тыпам акупацыйнай улады (гэбізмам), дзе асноўнай палітычнай сілай гэтай улады зьяўляюцца спэцслужбы (дзяржбясьпека, сілавыя структуры, КГБ);

**2)** канцэнтрацыяй сродкаў кантролю і рэсурсаў у руках рэжымнай улады;

**3)** адсутнасьцю сродкаў масавай інфармацыі поўнасьцю незалежных ад антыбеларускага рэжыму (беларускія СМІ за мяжой залежныя ад рэжымнай улады, бо журналісты залежныя, плюс палітыка замежных інвестараў, ў якіх свае дачыненьні з рэжымам)

Любы сродак масавай інфармацыі падвержаны ў такіх умовах небясьпецы ўплыву, перакупу, падкупу, ціску і кантролю над адміністрацыяй і выканаўцамі.

На сёньняшні дзень няма беларускага радыё і тэлебачаньня, не існуе вялікіх беларускіх адраджэнцкіх газэт (тыпу “Свабода”, “Пагоня”), акрамя дробных сайтаў, нічога такога

не існуе ў Інтэрнэце (ні воднага партала, ні воднай масава ўплывовай беларускай Старонкі). Становішча сьведчыць аб пэрманэнтнай беларускай паразе ў інфармацыйнай вайне. Калі, напрыклад, прааналізаваць невялікі па інтэрнэтных мерках (10 тысяч наведваньняў), але істотны для Беларусі "сайт" радыё "Свабода" за апошнія паўгады-год і параўнаць, як было раней, то заўважым, што галоўнай інфармацыйнай фігурай, якая ідзе ў вялікім адрыве ад усіх і ўсяго астатняга ёсьць асоба ўзурпатара Лукашэнкі і яго сямейнікаў. Бывае, што ледзь ня кожны дзень некалькі інфармацый з рознымі партрэтамі нішчыцеля Беларусі вісіць на сайце, камэнтуецца па шмат разоў кожнае яго казаньне і выказваньне, меркаваньні па ўсіх тэмах, пішацца пра яго байстука і ягоных сыноў (напрыклад, што адзін зь іх, іграючы на курорце ў хакей, атрымаў траўму і два дні не гуляў і т. п.). Такая тэндэнцыйная і пустапарожняя тэматыка – прыкмета нядобрая і выбар тэматыкі сімптаматычны. Партрэты ўзурпатара і нягодніка вісяць у кожнай інтэрнэт-старонцы так званых "незалежных" СМІ.

Калі параўнаць частотнасьць тэматыкі пра ўзурпатара на "Свабодзе" і ў "Советской Белорусіі", то Свабода мала саступае. Прытым матэрыялы тут у асноўным і амаль усе інфармацыйна-нэўтральныя ды яшчэ часам з тлумачэньем сатрапаўскай рацыі ды пазыцыі. Гэта парадаксальна, але факт. Канешне, радыё, напэўна ж, ня хоча папулярызаваць нішчыцеля і ўзурпатара. Тут няма сумненьняў. Але законы інфармацыі ніхто не адмяняў.

Гадоў 9-10 таму мне прыходзілася пісаць і выступаць з заклікам аб пашырэньні беларушчыны ў Сеціве шляхам стварэньня вялікай колькасьці дробных беларускіх старонак, якія мусілі б перадрукоўваць асноўную беларускую адраджэнскую інфармацыю, бяручы яе адзін у аднаго.

Па такой схеме, калі яе разьвіць, можна ахапіць патрэбнай інфармацыяй вялікую колькасьць людзей. І ня так проста рэжыму гэтую справу заблакаваць, калі будуць дзейнічаць тысячы старонак.

Тады заклік падтрымалі некалькі асобаў, і, практычна, справа крыху зрушылася. Задача толькі ў тым (паўтаруся), каб асобныя беларускія старонкі ў Сеціве ня дзейнічалі аўтаномна, а пераймалі важную інфармацыю па схеме ланцуговай рэакцыі. Беларусы павінны навучыцца змагацца з акупацыяй у сфэры інфармацыі. Бо зразумела, што перамога ў інфармацыйнай вайне – гэта ўжо палова рэальнай перамогі. Пакуль што беларусы церпяць паразу. І гэта пры надзвычайных магчымасьцях, якія існуюць ў цяперашнім сьвеце.

Па ланцуговай схеме распаўсюджваўся "самвыдат" у 1960-80-х гадах. Кожны мог аддрукаваць чатыры закладкі на

машынцы і распаўсюдзіць. Распаўсюджвалася хутка, чытала шмат людзей. Бо была зацікаўленасьць ў праўдзівай інфармацыі і прымітыўная мэтодыка дзейнічала эфектыўна. І гэта ўлічваючы, што почырк кожнай машынкі захоўваўся ў КГБ, а за чытаньне "самвыдата" магла быць савецкая псіхушка альбо турма.

Тым часам і цяпер мы пераконваемся ў даходлівасьці і доўгатрывалай дзейнасьці мэтадаў папяровай інфармацыі.

Існуе шмат нявыкарыстаных тэхнічных інфармацыйных магчымасьцяў. Імі павінны б былі займацца новыя людзі, калі сасьпее сьвядомасьць і воля (спачатку ў асобных людзей, а потым ва ўсім грамадзтве).

Як паказвае вопыт і дзейнасьць, вельмі важна, каб у грамадзтве было праўдзівае разуменьне асноўных пытаньняў жыцьця нацыі і таго, што рэальна адбываецца ў Беларусі, -- у чым тут сутнасьць палітыкі, канфлікту і змаганьня.

Інфармацыя аб рэжыме ўнутраннай акупацыі, аб яго сувязі з Масквой, аб маскоўскай праімпэрскай палітыцы пакрокавага захопу Беларусі і ўзаемадзеяньні з рэжымам Лукашэнкі, аб антыбеларускай унутраннай палітыцы рэжыму, аб ролі псэўдаапазыцыі і Эўропы ў гэтым працэсе – усё яно павінна распаўсюджвацца і (што важна) паўтарацца пастаянна ў асьветніцкіх ведах пра сучасную беларускую драму.

Тое што праўдзівы стан канфлікту ў Беларусі ня будуць адлюстроўваць існуючыя так званыя "дэмакратычныя" СМІ не падлягае нават абмеркаваньню. Гэта прыродны факт. Прывяду красамоўны прыклад. На мінулым Сойме я ў чарговы раз зьвярнуў увагу на неадэкватную палітычную тэрміналогію, тэндэнцыйна распаўсюджаную ў СМІ на Захадзе і сярод псэўдаапазыцыі, якая называе антыбеларускі рэжым "беларускім" рэжымам, яго разбуральную антынацыянальную палітыку – "беларускай палітыкай", яго рэпрэсіўныя ўстановы ўлады – "беларускімі" ўладамі, ягоныя турэмныя засьценкі – "беларускай турмой" і г. д.

Матэрыял у чарговы раз быў даволі шырока зьмешчаны ў Сеціве. Тыя, каму трэба, прачыталі. Вынік вельмі красамоўны. Колькасьць абразьлівай для Беларусі тэрміналогіі "беларускі рэжым", "беларуская турма", "беларуская ўлада" і г. д. у дэм. СМІ павялічылася, ужываецца толькі і выключна, і, нібы са смакам. Адэкватных назоваў няма. Гэта вельмі сымптаматычны доказ – які характарызуе шмат што. Гэта ж як трэба не шанаваць Беларусь, каб так сябе выяўляць! Агентура ў СМІ аказваецца такая халуйская, такая адданая.

Пры савецкай акупацыі савецкая ўлада імкнулася дэманстраваць сябе ўладай. Была нават абмежаваная

зваротная сувязь, калі ўлады вымушаныя былі рэагаваць на супольную рэакцыю людзей (подпісы, калектыўныя лісты і інш.).

Цяперашні антыбеларускі рэжым выяўляецца менавіта як рэжым акупацыйны, які ня лічыцца ні зь якой думкай людзей, вучоных, інтэлігенцыі і г. д. Зьбіраньне подпісаў і апэляцыя да нелегітымнай акупацыйнай ўлады супраць пабудовы АЭС ці вырубкі дрэваў – справа абсалютна бяссэнсоўная. Рэжым ня лічыцца абсалютна ні з кім і ні з чым. Людзі, беларусы для яго нішто. Зваротная сувязь нават не імітуецца (як было ў камуністаў). Зьвяртацца да гэтай хунты – тое самае, што хадзіць на выбары да ўзурпатара. Цалкам марная справа.

Нашыя лёзунгі – “Байкот рэжыму!” “Народнае існаваньне!” (паралельнае) вынікаюць са становішча. У гэтай сувязі намер рэжыму ўвесьці расейскую ваеншчыну ў Беларусь і зрабіць расейскую ваенную базу пад Баранавічамі вымагае ад нас інфармацыі і звароту да свайго народа. Трэба разумець, што працягваецца чарговы, на гэты раз мілітарысцкі, этап палітычнай вайны супраць Беларусі, падрыхтоўка мілітарнай акупацыі. Не павінна быць чужых ваенных базаў на тэрыторыі Беларусі.

*12. 05. 2013*

# ХАМ: «Я ўсім заходнікам, амэрыканцам кажу: «Мужыкі..."

*(Нататкі пра антыбеларускі рэжым)*

29-га красавіка беларусы выслухалі па тэлебачаньні чарговую порцыю хамства і цемрашальства ад правіцеля рэжыму. Ён выступаў. Але за хамскай формай нявыхаванасьці і неадукаванасьці прасочваецца і хамская палітыка.

Назіраючы за антынароднымі ініцыятывамі рэжыму ў галіне заканадаўства, у сфэры сацыяльнай і нацыянальнай палітыкі, заўважаем характэрную тэндэнцыю разьвіцьця па паўночна-карэйскім узоры. Прычынай такога павелічэньня цемрашальства ёсьць найперш усьведамленьне правіцеля, што Захад гатовы супрацоўнічаць з рэжымам і заплюшчыць вочы на ўсе яго злачынствы дзеля геапалітычных меркаваньняў. Яны (на Захадзе) думаюць такім чынам адцягнуць правіцеля рэжыму далей ад Расеі і ад расейскай агрэсіі супраць Украіны. Некалі яшчэ нават Сталін казаў: «Вельмі добра, што ў Эўропе дурні». Для маскоўцаў гэта было добра.

Тым часам, чым большыя саступкі зробіць Захад рэжыму, тым большы ўціск будзе ў Беларусі на народ, на беларускую мову і культуру, на культурных беларускіх людзей.

Справа ня ў тым, што эўрапалітыкі таго не разумеюць (хоць яны і не разумеюць), справа ў тым, што эўрапейскаму філісьцеру нашыя нацыянальныя праблемы не абходзяць. Ім лепш, каб у Беларусі была аморфная кіруемая маса, а ня моцная культурная нацыя. Уся справа толькі ў тым, каб на гэтую дэммасу ўплывалі яны.

Нам трэба ведаць, што ў выпадку адкрытай акупацыі з боку Расеі ці гібрыднай вайны па мадэлі анэксіі Крыма, Эўропа выкажа заклапочанасьць і асуджэньне Расеі (можа ўжыць эканамічныя санкцыі), але ня стане рэальна дапамагаць і падтрымліваць збройна нашу барацьбу (такое відаць цяпер у дачыненьні да Украіны). Эўропа ня хоча клопатаў і ваеннных расходаў, таму будзе дамаўляцца з Пуціным.

Лічу, што нам, беларусам, трэба тое ведаць і сур'ёзна рыхтавацца да барацьбы з пуцінскім фашызмам, які мы пераможам разам з украінцамі. Трэба падтрымліваць украінцаў і дапамагаць Украіне.

Пры ўпамінаньні пра беларускую пэрспэктыву, як у Паўночнай Карэі, ніхто зь беларусаў, зразумела, у тое не

паверыць, бо мы ж эўрапейцы, іншы народ. І дарма. Вельмі нават дарэмна. Мы ведаем у Эўропе адзін надзвычай культурны народ, які пры гітлераўскім фашызме за вельмі кароткі час ператварыўся ў агалцелую масу агрэсіўных прымітываў. А што мы назіраем цяпер у пуцінскай фашысцкай Расеі? Тую ж агалцелую дэградацыю, толькі ў дзікунскай і крымінальнай форме. Культура чалавека – гэта вельмі тонкі пласт сацыяльнай сьвядомасьці, які лёгка разбурыць і цяжка направіць. Дык прыгледзімся да сябе, што адбылося з грамадзтвам за дваццаць гадоў нацыянальнага вынішчэнья і існаваньня пад русіфікацыяй ды хамскай ўладай.

Цяпер уся сістэма хамскага антыбеларускага рэжыму працуе па паўночна-карэйскім узоры (законы пра «дармаедаў», пра падаткі зь беспрацоўных, пра падаткі і паборы з бытавых міжлюдзкіх пазык, з працоўных сямейных узаемадапамог, рыхтуецца падаткавы пабор на бязьдзетных і г. д.)

Сістэма рэжымнай улады даўно цалкам гатовая для выкананьня любога абсурду. Сэлекцыя адбылася. Праблема толькі ў народзе, які можа не паслухацца. Але ўлічым, што прынамсі палове нацыі хрыбет ужо зламалі, і яна гатовая падпарадкоўвацца і ўгінацца перад масквой. Аднак і гэта яшчэ ня самае кепскае. Сатрапія ў Беларусі адметная тым, што пры ўсіх агульных падыходах і атрыбутах зьнішчэньня, уціску і разбурэньня, яна ёсьць адзіная ў сваім родзе за ўсю гісторыю чалавецтва. Яна сьведама антынацыянальная, яе палітыка, палітычная ідэалогія і практыка накіравана на вынішчэньне беларускай нацыі, на сьціраньне беларусаў з твару зямлі, з дэмаграфіі, гісторыіі і культуры. Праводзіцца палітыка этнацыду, лінгвацыду і ўнутранай акупацыі ў інтарэсах чужой імпэрскай дзяржавы.

«Мы -- «русский мир», – паўтарае кіруючы хам платформу рускага фашызму, і ўся заля функцыянераў сістэмы ўспрымае гэта воплескамі.

Калі працягнуць паўночнакарэйскую сістэму да лагічнага выніку, то ўбачым, што любое яе завяршэньне пакідае пэрспэктыву карэйскаму народу, які скруцілі і зрабілі рабом, але ў яго ёсьць працяг, і магчымасьць адраджэньня, бо ён ёсьць, бо існуе карэйская мова, культура, гісторыя, этнас, і растаптаны народ Паўночнай Карэі яшчэ можа падняцца і адрадзіцца ў сваёй іпастасі.

Калі працягнуць да лагічнага завяршэньня сістэму антыбеларускай сатрапіі, то ў канцы мы ўбачым сьмерць нацыі, небыцьцё, неіснаваньне. У гэтым уся розьніца.

Страшны, антычалавечы паўночнакарэйскі камуністычны рэжым – гэта ёсьць «карэйскі» рэжым. Азіяцкі рэжым

туркменбашы – гэта быў тыранічны «туркменскі» рэжым. «Дзевяностававасьміадсоткавы» жорсткі назарбаеўскі рэжым – гэта ёсць «казахскі» рэжым. (Тое самае можна сказаць пра ўсіх Кадафі ды Хусэйнаў, ды Чавэсаў, ды Кастра). Ніводзін з гэтых жорсткіх рэжымаў, ідучы па трупах дзеля ўлады і грошай, не капаў магілу нацыі. І толькі антыбеларускі акупацыйны рэжым «хама» капае магілу нацыі і рыхтуе беларусам нацыянальную сьмерць. Вось дзе сутнасьць, якая патрабуе выбару сьведамага ці нясьведамага ад кожнага беларуса.

За ўсю нашу гісторыю не было большага злачынцы перад беларускай нацыяй, чым гэты распеРазаны хам. Няма такой кары, якую ён мусіць атрымаць, хіба што вечнае гарэньне ў Пекле, але людзі таго не вырашаюць.

Якія б выпрабаваньні ні чакалі яшчэ беларусаў (нават вайна), трэба добра ўсьведамляць, што пакуль будзе існаваць хамскі рэжым з хамам ва ўладзе, датуль будзе праводзіцца акупацыйная палітыка вынішчэньня беларускай нацыі. Гэтае сцьвярджэньне ёсьць як бы агульнае месца ў разуменьні становішча ў Беларусі, але абставіны могуць зьмяніцца, і нельга быць непадрыхтаванымі да перамен, і нельга ніколі пра тое забыць.

*1 траўня 2015 г.*

# ЭТАПЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

25-га жніўня 1991 года, пасьля надзвычай зацятага змаганьня дэпутатаў Беларускага Народнага Фронту супраць дэпутатаў камуністычнай намэнклятуры, пры падтрымцы тысячаў людзей на плошчы Вярхоўны Савет Беларусі надаў статус канстытуцыйнай сілы Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Гэты акт надзвычайнай важнасьці. У выніку яго прыняцьця і абвяшчэньня Беларусь здабыла рэальную дзяржаўную незалежнасьць. За кароткі час была пабудавана рэальная незалежная дзяржава з усімі атрыбутамі суверэнітэту, з урадам, з усімі міністэрствамі, бюджэтам, заканадаўчай сістэмай, войскам, грашыма, межамі, дзяржаўнымі сымваламі, прызнаная ўсім сьветам. Гэта вялікая гістарычная падзея і вялікая справа. Дзень 25 Жніўня зьяўляецца ўрачыстым нацыянальным сьвятам незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Гэта ўжо слаўная наша гісторыя, якую мы сьвяткуем.

Палітычны і праўны пачатак дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі адлічваецца ад 25 сакавіка 1918 года. Менавіта тады Беларуская Нацыянальная ідэя рэалізавалася ў абвяшчэньні незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сёлета мы сьвяткуем сто гадоў гэтай знакамітай даты гісторыі.

Палітычна і працэсуальна (легіслацыйна) Беларуская Народная Рэспубліка была аб'яўлена як клясычная незалежная дзяржава з праекцыяй усіх атрыбутаў дзяржаўнага суверэнітэту. Але ня ўсё ўдалося адразу ажыцьцявіць з прычыны вонкавых палітычных абставінаў.

БНР была створана і аб'явіла пра дзяржаўную незалежнасьць ва ўмовах 1-й Сусьветнай вайны і нямецкай акупацыі. Прытым немцы, паводле вымогаў Берасьцейскага міру, не павінны былі дапускаць ніякіх дзяржаўных сэпаратных нацыянальных утварэньняў на акупаванай тэрыторыі. Адпаведна і папярэднія акупанты расейцы прэтэндавалі на беларускую зямлю плюс агрэсіўная Польшча, якая адраджалася пры падтрымцы Антанты.

У гэтых складаных акупацыйных абставінах беларускія адраджэнцы змаглі арганізаваць дзяржаўныя структуры і аб'явіць незалежнасьць краіны. Немцы не ўжывалі жорсткіх рэпрэсіяў супраць БНР, але заблакавалі магчымасьці дзяржаўнага разьвіцьця. Было забаронена ствараць войска, фінансавую сістэму, банкі, міністэрствы прамысловасьці, гандлю, мець свае грошы, бюджэт і г. д. Акупанты не забаранілі толькі школьніцтва і культуру. І тут кіраўніцтва БНР пасьпела зрабіць шмат добрага.

Акупацыйная нямецкая палітыка і блакаваньне дзяржаўнага разьвіцьця БНР ёсьць важны гістарычны чыньнік, які абавязкова трэба ўлічваць пры ацэнцы незалежнага існаваньня Беларускай дзяржавы. Акупацыйныя ўмовы і забароны затармазілі натуральныя працэсы разьвіцьця дзяржаўнасьці і ўлады, дэфармавалі яе функцыі і структурныя сувязі. Стварылася акупацыйнае статус-кво, якое было адлюстраваньнем дэфармацыі, але не натуральных працэсаў разьвіцьця дзяржавы.

Гэтакая зьява тыповая для акупацыйнай палітыкі. Яна істотная для ацэнкі і характарыстыкі антыгістарычнага падыходу і антыбеларускай прапаганды.

Антыгістарычны падыход пры ацэнцы БНР за аснову зьявы бярэ акупацыйнае статус-кво, і на падставе гэтай дэфармацыі імкнецца даказаць нясьпеласьць, недасканаласьць БНР, неразьвітасьць нацыянальнай ідэі. Але ў гэтым сэнсе тут якраз усё было ў парадку, бо мелася разуменьне і гатовасьць да правільнага будаўніцтва дзяржавы. Тым часам прышлося рабіць тое, што было магчымым (і нават немагчымым). І гэта была ў тых умовах вялікай справай.

Увогуле, падмена рэальнасьці акупацыйным статус-кво (якое спэцыяльна ствараецца) -- гэта асноўная мэтадалёгія акупацыйнай прапаганды і антыгістарычнага падыходу ў імпэрскай заідэалагізаванай навуцы.

Такая карціна вельмі характэрная была для савецкай ідэалогіі і гісторыі, калі за аснову браўся гвалтам дэфармаваны сьвет, перакулены з ног на галаву, якому прыпісваліся іманэнтныя якасьці такога збочанага культурнага разьвіцьця і прычынна абумоўленага існаваньня. Падыход з гледзішча акупацыйнага статус-кво вельмі характэрны ўвогуле для расейскай прапаганды ва ўсе часы. Асабліва цяпер у прапагандысцкіх атаках на Рэспубліку Беларусь і яе народ. Вынікі гвалту над нацыяй і народам прадстаўляюць як натуральную зьяву і такім чынам паклёпнічаюць на ўсю нацыю.

Нягледзячы на тое, што БНР ня мела магчымасьці ў тых умовах рэалізавацца як паўнавартасная дзяржава, стварэньне і аб'яўленьне яе незалежнасьці мела велізарнае значэньне ў гісторыі Беларусі.

Гэты акт быў глыбока ідэёва і палітычна падрыхтаваны. Ён стаў чыньнікам разьвіцьця нацыі і пунктам адліку яе новай дзяржаўнай гісторыі. Без 25 Сакавіка 1918 года не было б 25 Жніўня 1991-га і паўнавартаснай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Аб'яўленьне незалежнасьці БНР засьведчыла нацыянальную ідэалёгію новай краіны. Гэтая ідэалёгія называецца Адраджэньне і абазначае пабудову новай дзяржавы

Беларусі на груньце культуры і гісторыі нашай гістарычнай дзяржавы -- Вялікага Княства Літоўскага. Акт 25 Сакавіка абазначыў тэрыторыю і межы Беларусі, усталяваў і сакралізаваў дзяржаўны гістарычны гэрб Пагоня і Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, замацаваў найважнейшы чыньнік нацыі -- дзяржаўнасьць беларускай мовы.

Гістарычна істотным зьяўляецца тое, што ўтварэньне БНР і аб'яўленьне незалежнасьці БНР сцьвердзіла існаваньне новай беларускай нацыі, абазначыла палітычную пэрспэктыву беларускага народу.

Фактам стала тое, што на аснове Вялікага Княства Літоўскага адрадзілася новая беларуская супольнасьць. Фактычна, тут адбылося адраджэньне Літвы і яе народа пад новай назвай Беларусь і ў новай сьведамасьці. Новая назва ўкаранілася моцна і глыбока, бо замацавана крывёй. За Беларусь былі пралітыя рэкі крыві, заплочана генацыдам, мільёнамі народных жыцьцяў. Ворагі Беларусі хочуць дэмагагічна заблытаць зьяву, перакруціць гісторыю і раскалоць грамадзтва, але гэта безнадзейна, бо варожа.

У вольнай Беларусі, збаўленай ад антыбеларускага рэжыму, не сумняваюся, адбудзецца сінтэз працэсу і пашырэньне назвы краіны з улікам яе гісторыі.

Аб'яўленьне незалежнасьці БНР, нягледзячы на ўсе складанасьці, прадвызначыла сэнс змаганьня за Беларусь у наступных пакаленьнях. Нават тое, што пад уплывам БНР была створана БССР -- аблегчыла барацьбу за незалежнасьць і дасягненьне яе ў 1991 годзе.

Аналізуючы становішча грамадзтва і краіны ў 1980-х--пачатку 90-х гадоў, я схіляюся да думкі, што на той час узьнік такі ўнікальны і караткабежны зьбег абставінаў, які мяжуе з цудам. І вельмі важна было правільна яго скарыстаць.

Крызіс у СССР меў пэрспэктыву пераменаў, бо ўзьнікла барацьба за ўладу ў кіраўніцтве КПСС. Стварыліся два цэнтры сілы, на чале якіх выступалі дзьве асобы -- Гарбачоў і Ельцын. Змаганьне пайшло па нетыповым і небясьпечным для саветаў сцэнары, які некалі хацеў скарыстаць Лаўрэнцій Берыя, але быў расстраляны артадаксальнымі супернікамі. Стаўка была зроблена на суверэнізацыю Расейскай Фэдэрацыі ў сістэме СССР. Гэта дало перавагу Ельцыну, які стаў старшынёй Вярхоўнага Савета фармальна "суверэннай" РСФСР.

У адказ генсек КПСС і прэзыдэнт СССР М. Гарбачоў ініцыяваў суверэнізацыю ўсіх так званых саюзных рэспублік з мэтай заключэньня потым новага саюзнага дагавору, які абнавіў

бы СССР, сцьвердзіў яго новы статус і забясьпечыў вяршэнства ўлады Гарбачову. У планах абнаўленьня СССР Гарбачоў выявіў сябе як хітраван і тыповы імпэрыяліст. Тым ня менш, павелічэньне ўлады "лібэрала" Ельцына, чарговае ўмацаваньне ўлады блытаніка Гарбачова, і нават мінімальная лібэралізацыя новага СССР (які павінен быў называцца "Саюз Суверэнных Дзяржаў") прышлася не да спадобы КГБ, і найбольш рэакцыйным камуністам у верхавіне ўлады.

20-га жніўня 1991 г. мусіла б вырашыцца пытаньне аб новым саюзным дагаворы, а 19-га -- распачаўся вядомы ў гісторыі кагэбісцка-камуністычны путч, так званы ГКЧП.

Нам, дэпутатам Фронта, было зразумела, што путч пацерпіць паразу, і вельмі хутка, бо камунізм ужо ня меў пэрспэктывы.

Настаў крытычны мomaнт у нашай гісторыі. Трэба было дзейнічаць хутка і дакладна.

ЦК кампартыі БССР адразу прызнаў ГКЧП і разаслаў указаньне па арганізацыях выконваць загады ГКЧП. Дэпутаты Апазыцыі БНФ нараніцы 19-га жніўня сабраліся ў Вярхоўным Савеце, навязалі сувязь з Масквой, з камандай Ельцына, з арганізацыямі БНФ і з дэпутатамі БНФ у мясцовых саветах, сабралі людзей на плошчы ў Менску, паслалі сваіх прадстаўнікоў у некаторыя вайсковыя часткі. 20-га жніўня аб'яўлена аб стварэньні Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, пачалі ціснуць на кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, каб яно заявіла аб непрызнаньні ГКЧП. Вечарам 21-га стала вядома, што путч праваліўся. Нараніцы 22-га падпісана капітуляцыя ГКЧП. У гэты ж дзень дэпутаты Фронта запатрабавалі ад старшыні Вярхоўнага Савета М. Дземянцея сабраць нечарговую сэсію Вярхоўнага Савета. Дземянцей ухіліўся. Тады запатрабаваньне аб скліканьні надзвычайнай сэсіі на 23 жніўня было выстаўлена першаму намесьніку старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевічу. Шушкевіч выдаў распараджэньне аб скліканьні сэсіі на 24 жніўня. 23-га жніўня і цэлую ноч дэпутаты Апазыцыі БНФ працавалі над парадкам дня сэсіі і падрыхтоўкай праектаў заканадаўчых дакумантаў.

Перад намі стаяла задача забараніць дзейнасьць кампартыі і канстытуцыйна аб'явіць незалежнасьць Беларусі.

Лагічна і арыфмэтычна гэта выглядала немагчымым. Унікальнасьць становішча выглядала так: Апазыцыя БНФ у камуністычным Вярхоўным Савеце (дзе было 345 дэпутатаў) налічвала 27 дэпутатаў, плюс з дзясятак падпісантаў праграмы Апазыцыі, плюс 50-60 хісткіх асобаў з дэмклуба (амаль усе камуністы), плюс некалькі вольных дэпутатаў. Астатнія --

камуністычная намэнклярура, ветэраны НКВД і т. п. Нашых магчымых галасоў не хапала нават на траціну. Камуністы, усе сакратары абкамаў і райкамаў падтрымалі ГКЧП і цяпер сядзелі ў залі ў панічным жаху, баючыся адказнасьці. Пагрозай для іх былі Народны Фронт і народ.

Тым часам забараніць іхную кампартыю і аб'явіць незалежнасьць можна было толькі іхнымі галасамі. Але яны супраць сябе галасаваць ня будуць. За незалежнасьць, што падняло б у гару Народны Фронт, -- таксама ня будуць галасаваць. Вярхоўны Савет быў у іхных руках. Прытым іхняя перавага -- татальная. А праз нейкі час у іх мог і страх прамінуць.

Што рабіць? Дык вось рабіць трэба было тое, што трэба было рабіць, памятаючы галоўнае, што палітыка -- гэта мастацтва немагчымага. У гэтым раскладзе вельмі важна было для нас не зрабіць ніводнай памылкі, бо мы ня мелі галасоў.

Была ўжыта тактыка магутнага націску на намэнклятуру з мэтай павелічэньня іхняга страху. Націск быў жорсткі, але дазаваны і кантраляваны, каб моцна не перапалохаць, паказвалі ім выхад, сьвятло ў канцы тунэлю, каб яны не разьбегліся, бо тады сэсія не адбылася б. Дзеля гэтага дружына БНФ на плошчы ўзяла пад кантроль увесь парадак, і нават міліцыю, каб запабегчы правакатарам. На плошчу вывелі трансьляцыю сэсіі па гучнагаварыльніках. Тут жа стварылі нацыянальную гвардыю (тысяча мужчын). Далі магчымасьць прадстаўніку плошчы выступіць у парляманце. Жорстка заблякавалі і сагналі з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ Малафеева (фактычнага злачынцу ГКЧП). Пры гэтым пераконвалі камуністаў, што калі не спыніць дзейнасьць кампартыі і ня выйсьці з СССР у незалежнасьць, то Масква, дзе кіруе ўжо Ельцын, расправіцца з гэкачэпістамі ў Беларусі, і мы дапаможам.

У апошнім сваім выступе я акцэнтаваў ўвагу на імпэрскім характары Ельцына і будучай Расеі, аб неабходнасьці абараніць сваё.

Урэшце адбыўся пералом, здаўся Малафееў, Кебіч перайшоў на наш бок і камуністы здаліся, прынялі нашыя прапановы, прыпынілі дзейнасьць кампартыі ў Беларусі і потым усе разам аднагалосна прагаласавалі за незалежнасьць краіны, надаўшы Дэклярацыі аб суверэнітэце статус канстытуцыйнага закона.

Адзіным дэпутатам, які ўпарта і да канца, да апошніх хвілін выступаў супраць незалежнасьці Беларусі, называючы гэта жартам і бязглузьдзіцай, быў віцэ-сьпікер Станіслаў Шушкевіч. Ён шмат перашкаджаў у вядзеньні сэсіі, падыгрываючы камуністам, але ўрэшце і сам заблытаўся, а

потым, убачыўшы, што застаўся ў адзіноце, падтрымаў галасаваньне і павіншаваў беларускі народ з набыцьцём незалежнасьці. Вечарам мы, дэпутаты Фронта, вышлі на плошчу, абымаліся зь людзьмі, сьмяяліся і плакалі ад радасьці, сьпявалі народныя песьні. Як сказаў наш знакаміты фронтаўскі дэпутат Пётра Садоўскі, -- "гэта быў час, калі мы былі гістарычна шчасьлівымі".

За два гады ў пастаянным змаганьні з намэнклятурай, якая засталася пры ўладзе, нам удалося ўсё ж закласьці грунт незалежнай дзяржавы. Створана была заканадаўчая база, нацыянальнае войска, межы, амбасады, свае грошы і г. д. Бяда была аднак у тым, што не ўдалося адразу зьмяніць уладу. Нас было няшмат у парляманце, а грамадзтва хоць і падтрымлівала перамены, але ня выйшла яшчэ з-пад савецкага мэнтальнага ўплыву. Ды й улада на месцы і калгасы засталіся тыя самыя.

Істотным адмоўным чыньнікам стала таксама пазыцыя С. Шушкевіча, які заняў пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета і поўнасьцю перайшоў на бок камуністычнай намэнклятуры, усяляк перашкаджаў дэпутатам Народнага Фронту.

Падзяліўшы ўладу ў Маскве, былыя расейскія камуністы хутка апамяталіся і заняліся сваёй звычайнай справай: агрэсіяй, пераваротамі ў краінах, тэрарызмам і вайной. З 1992 года рыхтуецца агрэсія супраць Чачэніі, вайна ў Малдове, у Сярэдняй Азіі, на Каўказе, перамены ў Беларусі. У Беларусі падрыхтоўвалася ўнутраная акупацыя краіны (тое, што цяпер сталі называць гібрыднай вайной).

У 1994 годзе, Масква, валодаючы каласальнай савецкай рэзідэнтурай ў Беларусі, выкарыстала выбары прэзыдэнта і ўнутраная акупацыя пасьпяхова адбылася пры амаль поўным неразуменьні грамадзтва, што адбываецца і што зь ім робяць.

24 гады антыбеларускага рэжыму пакінулі страшную карціну нацыянальнага разбурэньня Беларусі. Антыбеларускі рэжым за 24 гады існаваньня вынішчыў тое, што ня здолеў зрабіць савецкі рэжым за 73 гады панаваньня і генацыду. Калгасны выканаўца Масквы і вертыкальны рэжым антыбеларускай улады, практычна, разбурылі беларускі этнас, зьнішчылі беларускую вёску, зьнішчылі беларускую школу, амаль задушылі беларускую мову, рэзка абнізілі адукацыйны і культурны ўзровень насельніцтва, выгналі моладзь за межы краіны, распрадалі нацыянальную маёмасьць, ліквідавалі нацыянальную інфармацыю, разбурылі грамадзянскую супольнасьць.

І тым ня менш увесь гэты час Беларусь яшчэ жыве, цепліцца, бароніць ад вынішчэньня сваю мінуласьць і будучыню. Жыве насуперак усёй палітыцы нацыянальнага вынішчэньня. Чаму так адбываецца -- дае адказ 25 Жнівень 1991 года.

Дзяржаўная незалежнасьць для нацыі ёсьць каштоўнасьцю, вышэйшай за ўладу. Нават калі ўлада антынацыянальная, антынародная, рэпрэсіўная, незалежнасьць сама па сабе спрыяе захаваньню і кансалідацыі людзей, пакідае для іх сваё асяроддзе, магчымасьць пераменаў і надзею на будучыню. Нават антынародны рэжым вымушаны трымацца за дзяржаву і за незалежнасьць, каб зьберагчы сваю ўладу, каб захаваць сябе.

Шлях нацыянальнай ідэі яшчэ не завершаны. Ён замкнецца тады, калі ў незалежнай краіне будзе існаваць нацыянальная ўлада, якая зыходзіць з інтарэсаў нацыі, як ёсьць такое ва ўсім сьвеце.

Гаворачы пра нашыя вялікія даты 25 Сакавіка і 25 Жніўня і сьвяткуючы іх як сьвяты нашага змаганьня за волю і незалежнасьць, трэба зыходзіць з добрага правіла нацыянальнага існаваньня ў дачыненьні да сьвятаў.

Нацыянальныя сьвяты павінны адлюстроўваць важныя даты і падзеі нацыянальнай гісторыі.

Нацыянальных сьвятаў павінна быць шмат. Гэта добра для людзей і грамадзтва. Сьвяты зьяўляюцца натуральным чыньнікам нацыянальна-культурнай асьветы ўсёй нацыі ад вяршыні і да самых нізоў. Класічны і найлепшы прыклад -- сістэма сьвяткаваньняў габрэйскага народа. Ягоная гісторыя ў сьвятах крочыць разам зь ім. І ня ведаць яе немагчыма

Нацыянальнае сьвята павінна сьвяткавацца, мець свой рытуал, традыцыю сьвяткаваньня, гісторыю, зьяўляцца нерабочым днём.

У Рэспубліцы Беларусь адразу так і пачыналася. Мы ўжо мелі і два Вялікадні, і два Раствы, і Дзяды, і Радаўніцу, і Дзень Беларускай Вайсковай Славы. Усё разьвівалася натуральна. Антыбеларускі рэжым ліквідаваў беларускія сьвяты, сымвалы і даты. Але яны нікуды ня зьніклі. У пэрыяд уціску шмат хто зразумеў, што чым больш нацыянальных сьвятаў, тым лепш для нацыі. Сьвяты -- гэта жывая праекцыя нацыянальнай гісторыі і культуры ў сучаснасьць.

Як толькі спадзе антыбеларускі рэжым, вернуцца ня толькі беларуская сімволіка, школа і Канстытуцыя, але і сьвяты,

якія ўзвышаюць нашых людзей у гісторыі, вяртаюць ім годнасьць і ўпэўненасьць у сваіх сілах. Будуць сьвяткавацца ўсе сьвяты незалежнасьці, змаганьня і культуры усім вольным беларускім народам.

Жыве Беларусь!

*2 верасьня 2018 г.*

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ – НАКАНАВАНЬНЕ, ЯКОЕ МУСІМ ПРАЙСЬЦІ

У гадавіну радыяцыйнай трагедыі нашага народа ўспомнім са скрухай, пашанай і жалем усіх загінулых і памерлых ад нябачнага і сьмяртэльнага цмока Чарнобыля. Скажам пра сутнасьць падзеі , якая называецца “Чарнобыльскі шлях”.

У 1989 годзе, калі я прапанаваў штогадовую помную акцыю “Чарнобыльскі шлях”, яна была ўспрынята ўсім Народным Фронтам і ўсім насельніцтвам Беларусі, бо ўсе разумелі, што нашае грамадзтва, уся нацыя ступіла на дарогу небывалай трагедыі, на шлях, які будзе доўжыцца пакаленьнямі, які наканавана мы мусім прайсьці, змагаючыся з радыяцыйным цмокам, дбаючы пра жыцьцё, здароў’е і будучыню. Гэта шлях выжываньня, хоць цемра будзе “ладзіць нам канвой”, як сьпявалася тады ў Фронтаўскім гімне. Але тады мы не баяліся цемры і перамагалі.

Камуністы, пануканыя з Масквы кінулі міліцыю, унутраныя войскі і заблякавалі, перакрылі ўсе дарогі ў Менск. Але ўсяроўна, ня гледзячы ні на што, і нават на праліўны дождж на першы “Чарнобыльскі шлях” сабраліся дзясяткі тысячаў людзей і прайшлі шэсьцем праз увесь горад, стварыўшы мітынг на плошчы, які ўвайшоў у гісторыю.

Чарнобыльскі шлях – гэта помны шлях пакаленьняў у выніку якога мы, Беларускі народ, мусім выжыць і перамагчы катастрофу, якая пачалася за савецкім заборам яшчэ да Чарнобыля, а Чарнобыль стаў кульмінацыяй вынішчэньня.

У 1950-1970-я гады савецкія акупацыйныя войскі, якія стаялі на тэрыторыі Беларусі, праводзілі стэльбы з атамных гарматаў, выпрабоўвалі тактычную атамную зброю на палігонах Гомельскай і Берасьцейскай вобласьцяў. Тады ад Каленкавічаў да Жыткавічаў праз лясы і балоты праклалі роўную як страла бетонную паласу для савецкіх атамных бамбардыроўшчыкаў. Эксперыментавалі на галовах беларускага народа, абвалілі на Палесьсе сьмяртэльны груз радыяцыі. І ўсё гэта акупанты засакрэцілі.

У пачатку 1970 гада былі ўзятыя пробы малака на прадмет выяўленьня радыяцыі па ўсёй Беларусі. Высьветлілася, што ўвесь поўдзень Беларусі ад Кармы, Рагачова, Чачэрска і аж да Берасьця і нават Івянца і Валожына – усё забруджана

радыёактыўным ізатопам цэзія – 137. Канцэнтрацыя ад 50 кюры на літар малака да больш чым 1000 кюры на літар. Асабліва высокая радыяцыя (больш 1000 кюры на літар) у раёне Лельчыцаў – Петрыкава – Лунінца – Пінска – Давыд-Гарадка – Століна, Маларыты. Менавіта з гэтай радыяцыяй зьвязана пагаршэньне здароўя і сьмяротнасьць беларускіх людзей, зьніжэньне нараджальнасьці і папуляцыі насельніцтва. Чарнобыль зьверху ўзмацніў няшчасьце нашай краіны.

Чарнобыльская аварыя, якую падрыхтавалі і зрабілі маскоўскія акупанты , доўжыцца па сёньняшні дзень як сэрыя злачынстваў супраць беларускага народа. Найперш усё засакрэцілі, не давалі людзям праўдзівай інфармацыі, ілгалі.

Другое – не зрабілі неабходных захадаў (простых, танных, і вядомых) дзеля прадухіленьня радыёактыўнага ўдару ад кароткажывучых ёдзістых ізатопаў, якя ападалі ў пачатку аварыі. Наадварот, рабілі ўсё, каб падставіць беларусаў пад абпраменьваньне, пагналі тысячы дзяцей на першамайскія дэманстрацыі і наступныя савецкія сьвяты.

Трэцяе – засакрэцілі вынікі, маштабы і небясьпечнасьць катастрофы, не адсялялі людзей , не рабілі антырадыяцыйнай прафілактыкі, не стваралі ніякага заканадаўства. І так тры гады пасьля аварыі, пакуль Беларускі Народны Фронт, які ўзьнік у канцы 1988 года, цягам дзўгага змаганьня не прымусіў іх тое рабіць, для паратунку людзей.

Чацьвёртае – яны растрэльвалі спэцыяльнымі арэазолямі радыёактыўныя хмары і апускалі іх на галавы беларусаў Магілёўскай вобласьці, бо не хацелі, каб патрохі распадаліся яны над Расеяй. У выніку акупанты зрабілі яшчэ адну катастрофу ў Магілёўскай вобласьці, дзе ўзровень радыяцыі такі ж як і вакол Чарнобыля.

Сёньняшні антыбеларускі рэжым працягвае чарнобыльскі генацыд. Ён ліквідаваў льготы і дапамогі насельніцтву на радыяцыйна забруджаных тэрыторыях, уводзіць у севазварот радыяцыйна небясьпечныя землі. Прадукты з радыяцыйных земляў ідуць на ўнутраны рынак беларускаму насельніцтву, а прадукты з чыстых земляў накіроўваюць у Расею, карміць “рускиий мир”,нішчыцеляў Украіны і Беларусі.

Радыяцыйны генацыд Беларускага Народа працягваецца. Мы мусім змагацца з гэтай палітыкай нашага вынішчэньня ворагамі чалавецтва. Чарнобыльскі шлях тут напамін аб неабходнасьці змаганьня і яднаньня ўсіх пакаленьняў беларусаў дзеля нашай сьветлай будучыні і здаровага існаваньня.

Хай будуць праклятыя тыя людзі і тое царства, якое наканавала нам гэтае вынішчэньне! Хай ператворацца ў попел іхныя вежы і гарады! Хай спаткае іх доля, якую яны стварылі іншым, не пакаяўшыся і не спыніўшыся ў зле. Вечнае пракляцьце ворагам чалавецтва, якія ненавідзяць увесь сьвет.

Памятайма пра Чарнобыль і Чарнобыльскі шлях. Мы, беларусы, мусім па ім ісьці, каб уратавацца, выжыць і адрадзіцца. Будучыня будзе лепшай. Майма веру і салідарнасьць.

Жыве Беларусь і будзе жыць!

*26.04.2018*

# ЗАЦЕМКІ ПРА МАРШ НЯНАВІСЬЦІ

Мне патэлефанаваў добры знаёмы габрэй з Канады і кажа:

-- Ну, вось, вы, спадар Пазьняк, увесь час абараняеце палякаў. Дык паглядзіце цяпер, як польскі фашызм танцуе ў Гайнаўцы на беларускіх касьцях. У Сеціве паглядзіце, ваша "Свабодка" паказвае.

Паглядзеў. Фашызму я там не знайшоў, але відовішча сумнае. Я б сказаў, што для XXI-га стагоддзя і для краіны Эўразьвязу яно надзвычайнае. Справа йдзе аб маршы польскіх шавіністаў 24 лютага гэтага года у памяць польскага спраўцы генацыду над беларускім насельніцтвам Беласточчыны кіраўніка аддзелу АКА Рамуальда Райса (клічка "Буры"), якога яны выстаўляюць як героя і змагара з камунізмам. Па загаду Райса ў 1946 годзе акаўцы палілі на Беласточчыне беларускія вёскі разам зь людзьмі. Забівалі немаўлят, крычэлі, каб беларусы выбіраліся за Буг, расстрэльвалі па нацыянальнай і веравызнаўчай прыкмеце. Інстытут Нацыянальнай Памяці Польшчы кваліфікаваў гэта як людабойства з прыкметамі генацыду.

Марш нянавісьці ў Гайнаўцы -- падзея шакуючая сваім цынізмам і амаральнасьцю. Знайшліся людзі, якія за дэвіз паводзінаў узялі зьмест крымінальнага выслоўя -- "напляваць на чужое гора" -- і пайшлі услаўляць забойцу туды, дзе пахаваныя ахвяры генацыду, дзе ўсе тое памятаюць і жывуць відавочцы падзей.

Такія паводзіны глыбока амаральныя і правакуючыя нянавісьць. У дэмакратычнай краіне супраць арганізатараў такога маршу нянавісьці мусіла б быць узбуджана судовая справа. Тым часам улады маўчаць. Гэта факт, які прымушае задумацца.

Гонар палякаў уратавалі ў нейкай ступені сябры арганізацыі "Грамадзяне РП". Яны стварылі прачулы разумны відэакліп на беларускай мове і прыехалі ў Гайнаўку падтрымаць пацярпелых людзей. І што ж мы бачым? Паліцыя акружае і адцясьняе нешматлікіх сяброў, што прыехалі падтрымаць беларусаў, каб даць дарогу шавіністам. Але самае характэрнае сталася потым, калі ўжо прамаршыравала калёна "ражаных" у вайсковую форму шавіністаў. Тады паліцыя бяз дай-прычыны пачала хапаць людзей з прысутных супраць маршу і валачы ў

свае аўтобусы (аўтазакі). Прытым, у асноўным жанчын. Усё гэта мне так нагадала лукашысцкі рэжым.

Не ўзьнікае ніякага сумненьня, на чыім баку ўлада (якая, між іншым, магла б проста забараніць марш нянавісьці). І тым ня менш, кроў людзкая -- не вада. Тое, што адбылося, мае трывожнае значэньне для ўсіх беларусаў і патрабуе тлумачэньняў з боку польскай улады.

Беларускія журналісты задавалі пытаньне некаторым польскім інтэлектуалам на тэму ўсхваленьня генацыду Райса. Адказы іх былі шакуючыя. Складваецца ўражаньне, што ў іх няма адукацыі, яны ня ведаюць элемэнтарных нормаў юрыдычнага права, бо казалі, што Райс змагаўся з камунізмам і ў яго былі ня толькі дрэнныя, але й добрыя ўчынкі. Вось вам і ХХІ-е стагоддзе. Шавінізм атупляе.

Злачынцу судзяць за злачынства. Ніякія добрыя ўчынкі тут не прымаюцца пад увагу. І Гітлер змагаўся з камунізмам. І таленавіты рэжысёр, што стварыў творы мастацтва, судзімы будзе за тое, што гвалціў малалетак. Ніякія заслугі не пазбаўляюць ад адказнасьці за злачынства перад Законам. Тым больш за злачынствы супраць чалавецтва.

Апошнім часам Польшча ўскладніла дачыненьні з усімі суседзямі, і нават з Эўразьвязам. Добрыя дачыненьні засталіся зь Беларусяй, той Беларусяй, якая альтэрнатыўная рэжыму Лукашэнкі. Маршы нянавісьці пакліканыя, відаць, каб пазбавіцца і гэтага сябра на ўсходзе. І тады рэальна сябрам застаецца толькі Расея. Гэта выглядае парадоксам, але ў гісторыі было шмат парадоксаў.

А ўвогуле, адзіны шлях, каб пазбавіцца ад злачынства ў нянавісьці супраць чалавецтва -- гэта пакаяцца. Пакаяцца і падвесьці рысу. Адзіны народ у гісторыі, які тое зрабіў, -- гэта немцы, краіна якіх была спляжана, разбурана, прыніжана, пасьля вайны справядліва абкладзена каласальнымі рэпарацыямі на цэлыя пакаленьні. І гляньма ўсе, колькі ім Бог за тое шчырае пакаяньне даў.

*26 лютага 2018 г.*

# АБ АКТУАЛЬНЫХ ПАДЗЕЯХ

*(З выступу на лютаўскім 2018 г. Сойме КХП – БНФ і БНФ «Адраджэньне»)*

...Антынароднасьць рэжыму ў гэтым годзе найбольш выявілася ў дэкрэце №1. Гэта мадыфікацыя дэкрэта №3 (так званага дэкрэта «аб дармаедах»). Згодна “мадыфікацыі” здымаецца адказнасьць з імя начальніка рэжыму і перакладаецца на плечы і пад адказнасьць “вертыкалі”. Грамадзяне краіны падзяляюцца на дзьве катэгорыі. На тых, што маюць працу і карыстаюцца грамадзкімі льготнымі расцэнкамі за камунальныя паслугі, школу, медыцыну і інш., і на тых, што ня маюць працы і нідзе не працуюць. Для беспрацоўных цяпер трэба будзе аплочваць усе грамадзкія паслугі (дзе ёсьць дзяржаўныя льготы) па стоадсоткаваму іх кошту. Прытым калі ў сям’і з чатырох асобаў адзін бяз працы, то павышаная аплата перакладаецца на ўсю сям’ю. Калі беспрацоўны ня зможа аплочваць вялікую суму за камунальныя паслугі, то праз нейкі час узбуджаецца справа аб адабраньні жылья і высяленьні яго з кватэры.

Усе разлікі па абдзіраньні беспрацоўных павінны будуць рабіць спэцыяльныя камісіі, створаныя пры мясцовых органах улады. Гэтыя камісіі будуць вырашаць таксама з каго браць аплату а з каго не (тут характэрная прыкмета беззаконьня). Значыцца, у кожным сельсавеце будзе свой непарадак і сваё самадурства, асабліва, улічваючы, што дакладных прынцыпаў налічэньня ці адлічэньня адсоткаў па розных субсідных паслугах не існуе.

Вядома, што вар’яцкія законы ператвараюць грамадзтва ў вар’яцкі дом. Такіх “законаў” было поўна і пра сьвіную чуму, і пра індывідуальных прадпрымальнікаў, і пра тавары з-за мяжы, і інш. Гэты – чарговы. Ён ударыць па бальшыні беларускіх сем’яў, выкліча сямейныя раздоры (паколькі за беспрацоў’е аднаго караецца ўся сям’я) і нянавісьць, адток людзей з краіны, узмоцніць уладу бюракратыі і працадаўцаў (дадатковы рычаг у пагрозе страціць працу), павялічыць бясправ’е людзей.

Усё гэта робіцца па двух прычынах: вышукваньня мэтодыкі абдзіраньня людзей, зьдзіраньня грошай з грамадзтва і другая прычына – стратэгічная, якую мы назіраем увесь час: загнаць беларусаў у нястачу і залежнасьць, зрабіць беднымі, каб

не падняліся, не супрацівіліся чужым грошам, уцякалі б з краіны, ратуючыся ад мярзотнай улады, расчысьцілі б месца для чужых людзей і чужога капіталу. Такія законы і такія дачыненьні магчымыя толькі ў краіне эканоміка і сістэмныя сувязі ў якой пабудаваныя па сацыялістычнаму прынцыпу (дзе ўласьнікам і распараднікам эканомікі, працы, тавараў і паслуг зьяўляецца дзяржаўная ўлада).

Супраціўленьня чарговаму рабскаму заціску ня будзе. Ня будзе па простай прычыне – у людзей зьнішчана культурная нацыянальная годнасьць. Такое грамадзтва няздольнае да салідарнасьці і супраціву. Асобныя пратэсты лёгка ліквідуюцца.

Палітычныя партыі, якія ў гэтым становішчы (гэта значыць у бяспраўі і ў дыктатуры) робяць стаўку на страўнік грамадзтва, на змаганьне за яго матэрыяльнае выжываньне – не дасягаюць нічога. Нявольнік можа ўзбунтавацца, але не змагацца, не супраціўляцца.

Беларускія партыі ва ўмовах адсутнасьці рэальных выбараў мусілі б дбаць перш за ўсё пра нацыянальны дух волі і годнасьці чалавека.

Не існуе цяпер электаральнай сітуацыі ў грамадзтве. Працуе машына фальсіфікацыі, якая не паддаецца ніякаму кантролю, бо дзейнічае цалкам асобна сама ў сабе. Ня мае значэньня як галасавалі людзі; нават ня мае ўжо значэньня колькі іх галасавала. Старшыня ЦВК галоўны фальсіфікатар ў гэтай сістэме – Ярмошына ўжо аб’явіла, што “чакае” 78% яўкі выбаршчыкаў. Гэта ў той час калі на мясцовыя выбары ўжо даўно амаль ніхто ня ходзіць.

Даўно вядома, што нельга падтрымліваць машыну фальсіфікацыі і хадзіць на выбары, ствараць выгляд, што адбываюцца нейкія “выбары” і абяляць антынародны рэжым ды гэтак апускацца перад людзьмі.

Але “партыі апазыцыйнай падтрымкі рэжыму” ходзяць у гэтую машыну кожныя выбары, як на працу. Вельмі нетыповая сытуацыя склалася ў Беларусі ў век гэбоўскіх тэхналёгій.

Акрамя існаваньня “машыны”трэба разумець, што мясцовыя саветы ў сістэме дыктатуры, фактычна ня маюць улады і самастойнасьці. Гэта ня ворганы самакіраваньня (але шырма для карумпаванай бюракратыі). Аднак гэта ўжо іншае пытаньне (пытаньне палітыкі). Наша партыя ня ўдзельнічае ў электаральных афёрах і маніпуляцыях рэжыму, не стварае яму карцінку нібыта “выбараў”. Тым часам мы ажыцьцяўляем выбарчы кантроль за гэтым працэсам. Перш за ўсё падлічваем колькасьць людзей, што прыходзяць галасаваць, каб паказаць рэжым у ягонай хлусьні, якая існуе як дадзенасьць, як чыньнік рэжымнага галасаваньня.

На сьнежаньскім Сойме я распавёў пра зьмены ў палітыцы краінаў Эўразьвязу, пра тэндэнцыі фашызму і ксэнафобіі ў некаторых грамадзтвах, выкліканыя мусульманскай эміграцыяй у Эўропу, пра зьмены палітычных групаў ва ўладзе некаторых краінаў і вынікі новага кіраваньня. Вострыя дыскусіі (якія перакочваюцца ў Брусель) узьнікаюць там, як правіла, у сувязі са зьменай заканадаўства, імкненьнямі ўвекавечыць ідэалёгію і ўладу адной палітычнай сілы, не зважаючы на прынцыпы дэмакратыі.

У гэтым сэнсе найбольш выразныя палітычныя павароты адбываюцца ў Вугоршчыне, Чэхіі і Польшчы. Імкненьне выканаўчай партыйнай улады ў Польшчы падпарадкаваць сабе судовую сістэму, ігнаруючы незалежнасьць судоў, выклікала рэзкую рэакцыю Бруселя, які ўгледзеў тут парушэньне важнешых прынцыпаў дэмакратыі і падзелу ўладаў.

Дачыненьні моцна ўскладніла шматтысячная дэманстрацыя ў Варшаве 11-га лістапада 2017 г., дзе былі антыдэмакратычныя і расісцкія лёзунгі. Брусель абвінаваціў Варшаву ў падтрымцы фашызму і прыняў адпаведную ацэначную дэклярацыю, якая можа мець юрыдычны працяг з накладаньнем санкцыяў на Польшчу. Варшава не прызнае абвінавачаньняў Бруселя і ў студзені гэтага года зьяўляецца чарговы заканадаўчы акт польскага сейма, які ўзбударажыў ня толькі Эўразьвяз, але і дзяржаву Ізраіль, і Украіну і нават Расею, якая пачала хваліць Польшчу (кепская прыкмета, дарэчы).

Справа ідзе аб навэлізацыі (удакладненьні, папраўцы) закона аб Інстытуце народнай памяці. Прыняты запіс, што асобы ў Польшчы і за яе межамі якія на нямецкія канцлягеры, што былі на тэрыторыі Польшчы, будуць казаць “польскія лягеры сьмерці”, падлягаюць крымінальнаму перасьледу, штрафу і кары на тры гады турмы.

Хоць гэта юрыдычна недасканалае азначэньне, але польскіх заканадаўцаў можна зразумець і пагадзіцца. Бо калі некалі нават прэзыдэнт Амэрыкі Абама назваў Асьвенцым (Аўшвіц) “польскім канцлягерам сьмерці”, то нешта ўжо трэба было рабіць. Але далей усё пайшло значна горш. Папраўка ў закон прадугледжвае ўзбуджэньне крымінальнай справы (супраць кожнага ва ўсім сьвеце) за адмаўленьне злачынства ўкраінскіх нацыяналістаў. Паводле новага закону, хто публічна прыпіша палякам поўную або частковую адказнасьць за злачынствы, учыненыя гітлераўскай Нямеччынай або іншыя злачынствы супраць чалавецтва, міру і ваенныя злачынствы – будзе пакараны штрафам і на тры гады турмы. У выпадку

ненаўмыснага парушэньня гэтага закону  таксама штраф і абмежаваньне волі. Зразумела, што такі палітызаваны ўзровень юрыдычнай думкі зьдзівіў і абурыў шмат каго, асабліва габрэяў, бо гэта азначае, фактычна, забарону  ўсяму сьвету  на выяўленьне азначаных у законе злачынстваў сярод грамадзянаў Польшчы ў ваенны, прадваенны  і пасьляваенны час. Тым больш вядома, што злачынствы былі. Гэты закон – імкненьне вывесьці іх з-пад адказнасьці.

Такое ўражаньне, што заканадаўчая памылка ў прыняцьці папраўкі да закона паспрыяла выцягваньню на паверхню безадказных асобаў і неадэкватных фармулёвак. Адзін публіцыст ужо напісаў нават пра “ беларуска-жыдоўскія банды, якія забівалі палякаў”. Калі такія розумы апынуцца ва ўладзе, то адзіным сябрам Польшчы застанецца пуцінская Расея.

На мой погляд юрыдычна сумніўныя папраўкі ў закон – вынік памылковага дрэннага аналізу і кепскай прадуманасьці закона. Але паколькі тут ня ўлічаныя дэмакратычныя нормы заканадаўства, то можна спадзявацца, што фармулёўкі будуць папраўленыя, пад ціскам дэмакратычнай грамадзкасьці.

Я спыніўся на гэтай нечаканай падзеі ў польскім заканадаўстве, таму што непрадуманыя фармулёўкі яго будуць датычыць таксама Беларусі, ацэнак канцлягеру ў Картуз-Бярозе, дзейнасьці Арміі Краёвай на тэрыторыі Беларусі, гісторыі людабойства беларусаў на Беласточчыне і інш. Магчыма некаторыя дзеячы ў Польшчы баяцца гэтых тэмаў і думалі прыняць прэвэнтыўную забарону на свабоду слова пра нявыгодныя тэмы. Але замест гэтага выклікалі абурэньне людзей. На мой погляд у дэмакратычнай краіне  такога роду непаразуменьні ў рэшце рэшт заўсёды выпраўляюцца. Калі не самымі іх стваральнікамі, то наступнымі палітыкамі, якіх людзі выберуць дзеля ўлады.

*11-02-2018*

# ЭТНАС І НАЦЫЯ

Разбураючы Беларусь, рускія за 200 гадоў акупацыі зьнішчылі (забілі) мільёны беларусаў, спалілі беларускія кнігі, ліквідавалі рэлігію, перарабілі і зьнішчылі тысячы храмаў, перабудавалі і панішчылі цэнтры гарадоў, фізічна ліквідавалі цэлыя саслоўі людзей, зрусіфікавалі школу, але так і не змаглі забіць этнас беларускага народа (нават камуністы).Найбліжэй падышоў да гэтага злачынства П. Машэраў, бадай, ці не найбольшы камуністычны русіфікатар і нішчыцель беларускай нацыі. (Даведка. *Пётр Машэраў, беларус па паходжаньні, сапраўднае прозьвішча Машэра (зьмяніў прозьвішча дзеля кар'еры), першы сакратар ЦК КПБ (КПСС). Удзельнік энкавэдзісцкай савецкай партызанкі на Беларусі. На пасадзе першага сакратара ЦК КПБ (КПСС) валодаў неабмежаванай уладай у Беларусі.*)

За Машэравым ужо лічылася татальная русіфікацыя беларускай школы і адукацыі, штучная (непатрэбная) меліярацыя (нішчэньне прыроды) і пачатак ліквідацыі беларускай вёскі. Пры Машэраве ўзьнік плян ліквідацыі беларускіх вёсак пад выглядам "беспэрспэктыўных". Па пляну 75% вёсак мусілі быць зьнішчаны (34 тысячы паселішчаў). Гэты антычалавечы плян разбурэньня беларускага этнасу ўжо пачалі ажыцьцяўляць, але неўзабаве Машэраў згінуў, плян забуксаваў, а праз нейкі час разваліўся СССР.

Антыбеларускую падрыўную працу Машэрава прадоўжыў А. Лукашэнка. Разбуральны вынік шызоіднага гэбізму аказаўся катастрафічным. За кароткі час (18 гадоў) антыбеларускага рэжыму ў значнай ступені русіфікавана, алкагалізавана, разбурана (“аграгарадкі”) і зьнішчана беларуская вёска. Пад пагрозай апынулася існаваньне беларускага этнаса. Амаль начыста адбітая памяць у пакаленьня. Нацыю нішчаць, а яна не разумее, што адбываецца.

## МОВА

Галоўнае пытаньне адраджэньня нацыяў у пэрыяд Вясны народаў Эўропы (у час крушэньня імпэрыяў) было пытаньне адраджэньня і грамадзкага сцьвярджэньня нацыянальнай мовы.

Галоўнае пытаньне палітыкі Расейскай імпэрыі на Захадзе (у Беларусі) -- ліквідацыя беларускай мовы. Галоўнае пытаньне беларускага нацыянальнага адраджэньня -- грамадзкае і дзяржаўнае сцьвярджэньне беларускай мовы.

Усё, што ствараецца ў Беларусі (ці за яе межамі) не на беларускай мове (а гэта, як правіла, пры ўдзеле чужой агентуры КГБ) не зьяўляецца ні беларускай апазыцыяй, ні беларускім рухам, ні беларускім нацыянальным адраджэньнем. Выплюньце гэта, як сьліну. Наша гісторыя і наш вопыт даўно пацьвердзілі гэтую праўду.

"А мы вот по-русски, за Белоруссию, за ее историю и культуру. Разве это плохо?"

"Вы можаце быць за "Белоруссію" хоць па-руску, хоць па-кітайску, хоць па-японску, і гэта ня будзе "плохо". Але будучыні Беларусі ў гэтым няма."

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

Інтэлігентнасьць ёсьць набытая выхаваньнем і адукацыяй, і ёсьць прыроджаная. Гэта здольнасьць чалавека свае веды, вопыт, думкі і дзеяньні сувымяраць з карысьцю для нацыі, для культуры, для народа і грамадзтва. Інтэлігент -- гэта інтэлектуал, які дбае пра Бацькаўшчыну і народ, які спалучае свае інтарэсы і веды з інтарэсамі нацыі і грамадзтва і можа дзеля гэтага ахвяравацца іншымі клопатамі.

Наяўнасьць інтэлігенцыі -- гэта ёсьць наша грамадзкая перавага перад Захадам. (На Захадзе не існуе інтэлігенцыі і дружбы. Людзі жывуць інтарэсамі і цэняць індывідуалізм, забясьпечаны правам.) У цяжкі для нацыі час, калі нішчаць культуру і мову, на інтэлігенцыю кладзецца адказнасьць і абавязак нацыянальна-культурнай асьветы грамадзтва. Цяжкі час даўно настаў.

Што робіць, чым займаецца беларуская інтэлігенцыя, гледзячы на нішчэньне мовы і разбурэньне культуры?

Ня трэба плакаць і бяз сэнсу абурацца на хама. Ня дайце яму ўсіх зрабіць хамамі. Не станавіцеся такімі, як ён. Не гаварэце, як ён. Ня будзьце на яго падобнымі. Шануйце нашу беларускую мову, гаварэце, сьпявайце, павожайце, вучэце дзяцей па-беларуску, нясіце сьвятло Беларусі ў душы людзей і ў цэлы сьвет.

*9 студзеня 2013 г.*

# ДЭМАКРАТЫЯ

Дэмакратыя – гэта форма ўлады, структуру якой фармуе ўвесь народ альбо асобная яго група шляхам выбараў альбо дэлегаваньня прадстаўнікоў.

Дэмакратычная форма ўлады спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы і разьвіцьцю грамадзкай супольнасьці, прадугледжвае свабоду і вольнасьць грамадзяніна.

Дэмакратыя дала магчымасьць у некаторых краінах стварыць якаснае сацыяльнае забесьпячэньне і забясьпечаную старасьць, падтрымаць інвалідаў, адукацыю і творчасьць, яна стымулявала здаровую канкурэнцыю вытворчасьці і разьвіцьцё эфэктыўнай сельскай гаспадаркі.

Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэньню энтрапіі, разбурэньню грамадзкага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадзкімі, дэградуючымі працэсамі, пры крызісных абставінах вядзе да аслабленьня і разбурэньня дзяржавы (Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, Ноўгарад, Грэцыя, Рым).

Дэмакратыя ёсьць форма ўлады мірнага часу. Такая якасьць дэмакратыі ўлічана ў заканадаўстве бальшыні краінаў дэмакратычнага сьвету. На пэрыяд вайны шмат якія прынцыпы дэмакратыі перастаюць дзейнічаць. Паўната безагаворачнай ўлады (і, у прынцыпе, дыктатарскай) пераходзіць да прэзыдэнта ці прэм'ер-міністра, ці іншай уладнай асобы. Прадугледжана ваеннае становішча, дыктатарскія законы ваеннага часу і г. д.

Разуменьне такой неабходнасьці прышло не адразу нават ў Афінах (радзіме дэмакратыі). Беларусь (ВКЛ) і Польшча – найстарэйшыя дэмакратыі ў хрысьціянскім сьвеце -- дзьвесьце гадоў таму, фактычна, загінулі як дзяржавы ад сваёй неабмежаванай шляхецкай дэмакратыі. І часта было, што маскоўская арда ўжо тапталася па Вялікім Княстве, а войска ВКЛ чакала збору і паседжаньня Сойму дзяржавы, які мусіў прызначыць гэтмана польнага, гэтманаў правай і левай рукі. Я не кажу ўжо пра Liberum Veto ў Рэчы Паспалітай.

Дэмакратыя зьвязана з грамадзкімі ідэямі, з пануючай формай уласнасьці і формай грамадзкай вытворчасьці. Рынкавая эканоміка і дачыненьні найлепш рэалізуюцца ў палітычнай сістэме дэмакратыі. У сучасным сьвеце дэмакратычная форма ўлады адпавядае характару вытворчых адносін, але па сваёй анталагічнай сутнасьці – гэта шчарбатая («збочаная» па Арыстоцелю) сістэма кіраваньня, якая пры пэўных абставінах прыводзіць да ўпадку і дэзарганізацыі

грамадзтва. Паводле У. Чэрчыля – гэта дрэнная форма, але лепшай не прыдумалі. Вяршыні дэмакратыі пэрыяду капіталізма і нацыянальных дзяржаў – гэта **амэрыканская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі асабістай свабоды асобы і на рынкавай эканоміцы, і **эўрапейская дэмакратыя**, заснаваная на ідэі народнай свабоды, роўнасьці, братэрства і на рынкавай эканоміцы.

У выбарчай сістэме ўсеагульнай дэмакратыі, якая не прадугледжвае абмежаваньняў і выбарчых цэнзаў, закладзена сістэмная магчымасьць маральнай дэградацыі грамадзтва і ўлады. Гэта ёсьць ахілесавая пята дэмакратыі і зьвязана яна з прынцыпамі дэмакратычнага змаганьня за ўладу ў час выбараў. Змагаючыся за галасы выбаршчыкаў, прэтэндэнты на ўладу (у залежнасьці ад асабістага ўзроўню і характару) могуць апэляваць да маргінальных і антыграмадзкіх групаў людзей, абяцаючы ім падтрымку, каб атрымаць галасы. Такім чынам у сістэме татальнай выбарнай дэмакратыі закладзены магчымасьці, якія легалізуюць дэструктыўныя, адсталыя, збочаныя, паразітныя і зусім нікчэмныя зьявы грамадзтва – адкіды разьвіцьця, уводзяць іх у сістэму ўлады, у інфармацыйныя інстытуты, якія ўплываюць на ўсё грамадзтва, у сістэму асьветы і інш., падтрымліваюць прыняцьцем дэструктыўных (часта антыграмадзкіх) законаў і палажэньняў.

Пачынаючы з 1960-х гадоў мінулага стагоддзя, і амэрыканская, і эўрапейская дэмакратыі зьмянілі ідэалёгію і ўступілі ў паласу сістэмнага і родавага крызісу як дэмакратыі левага лібэралізму альбо левалібэральныя дэмакратыі.

**Левалібэральная дэмакратыя** заснавана на касмапалітычнай ідэі прыярытэту правоў чалавека, на касмапалітычнай ідэі мультыкультурнага фармаваньня грамадзтва і на лібэральных прынцыпах эканомікі, якія прадугледжваюць прыярытэт эканомікі перад дзяржаўнай уладай.

Лібэральная дэмакратыя ў цэлым як крызісны этап дэмакратыі, павязаная з новымі формамі інфармацыі, выклікае каласальнае павелічэньне энтрапіі за кошт стварэньня сістэмы лібэральных антыкаштоўнасьцяў, галоўнымі зь якіх ёсьць антыхрысьціянства і рэлятывізм, які сьцірае межы паміж дабром і злом, зманам і ісьцінай, дэградацыяй і разьвіцьцём, прыродай і хімерай.

Левалібэральная дэмакратыя сфармавалася ў выніку спалучэньня маргінальных левых ідэй з прынцыпамі дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

У левалібэральнай дэмакратыі эканамічным таварам становяцца не высокія таленты асобы, а нізкія заганы, злачынствы і збачэнствы, не хараство, а брыдота. Нават дурнота шырока прадаецца і набывае свой рынак. Назіраецца люмпэнізацыя насельніцтва. У выніку адбываецца рэзкі ўпадак культуры. Незапатрабаваным робіцца мастацтва, зьнікаюць яго віды, дэградуе мараль, прымітывізуецца асоба. Усё гэта – складнікі глыбокага духоўнага крызісу, хуткага выхаду зь якога, практычна, не бывае, калі будзе пяройдзена мяжа невяртаньня. Становішча абцяжарана тым больш тлеючым глабальным крызісам насычэньня сусьветнага таварнага рынку, выйсьця зь якога таксама яшчэ не відаць.

Павелічэньне энтрапіі правакуе сама рынкавая эканоміка, але пры левалібэралізме ідэалогія псэўдадэмакратыі разьвіваецца сама па сабе і ўплывае на паступовую дэзарганізацыю грамадзтва.

У апошнія 25 гадоў (з уваходам вытворчасьці ў электронную эру) істотным чыньнікам энтрапіі стала рэзкае павелічэньне хуткасьці перамен. Дынаміка вытворчасьці зраўнялася з пэрыядам засваеньня новых тэхналёгій і стала пераганяць спажывецкія магчымасьці. Тэндэнцыя разьвіваецца як усеагульны працэс.

У сфэры транспарту (лакамоцыі) рэзкае павелічэньне хуткасьці прывяло да новага (малакантралюемага) адчуваньня прасторы і часу. У сфэры інфармацыі вытворчасьць яе перадачы шматкроць перабольшыла магчымасьць успрыняцьця. У сацыяльна-культурнай сфэры (у выніку паскарэньня і сьцісканьня дэмаграфічнай дынамікі) разрыў паміж пакаленьнямі у межах адной сям'і дасягнуў крытычнай мяжы. Перадача культуры абцяжарваецца і, практычна, спыняецца нават ў дачыненьнях бацькоў і дзяцей. Траціцца адчуваньне (і разуменьне) гістарызму культуры. Усё паглынае цяпершчына, за якой чалавек ужо не пасьпявае. Такую дэмадынаміку як меру хуткасьці перамен трэба разглядаць як асобную катэгорыю працэсаў, выкліканых рынкавай эканомікай і кансумэнцкім, лібэральным спосабам спажываньня.

Далей аб пэрспэктыве сусьветнай дэмакратыі можна казаць толькі ўмоўна

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце магло б спыніць духоўнае нацыянальнае адраджэньне як агульнацывілізацыйнае рушэньне. На сёньняшні дзень альтэрнатывай крызісу і рэгрэсу ёсьць толькі ідэя адраджэньня

Хрысьціянства. Але гэта якраз тая ідэя, якую не шануе леваліберальная дэмакратыя.

Фармальна спаўзаньне да маральнай катастрофы магла б (мяркуючы тэарэтычна) часова прытармазіць (але не ўратаваць) такая хірургічная апэрацыя лібэральнай дэмакратыі, як шырока ўвасобленая дыктатура, дыктатарская сістэма ўлады. (Гэтым карыстаўся Рым, хоць тое яго і не ўратавала.) Зразумела, што сэнс тут у тым, каб пасьля дыктатуры і санацыі пачалося новае духоўнае дэмакратычнае адраджэньне, а не карупцыйная алігархія і ня люмпэнская ахлакратыя. Прытым трэба ўсьведамляць, што дыктатура ў такіх выпадках нясе з сабой абмежаваньне свабоды, перасьлед, рэпрэсіі і сьмерць. Нармальнасьць дасягаецца часам вялікай, крывавай цаной (характэрны прыклад дыктатура Піначэта ў Чылі). Гэта варыянт для Эўропы ўмоўны і не рэальны.

І трэці варыянт -- катастрафічны. Гэта глабальная вайна, па маштабу -- кшталту 2-й Сусьветнай. Магчымасьць такога варыянту павялічваецца якраз тады, калі пераход мяжы невяртаньня адбудзецца, і новы сусьветны тавар ня зьявіцца. Тады ўсе працэсы будуць “працаваць” на катастрофу. І яна мусіла б стаць.

Зразумела, што тут я выказваю толькі меркаваньні (спэкуляцыі), разглядаю варыянтнасьць. Але яна зыходзіць з відочных тэндэнцыяў структурнага разьвіцьця грамадзтва і падмацавана ўжо гістарычным вопытам людзей. Гэтага дастаткова, каб адысьці ад прапаганды і самарэклямы цяперашняга грамадзтва і паставіцца сур'ёзна да праблемаў і плыняў сучаснага сьвету. Асабліва дбаючы пра прышласьць нашай дарагой Беларусі.

*8 ліпеня 2013 г.*

# ДЫКТАТУРА

Дыктатура – гэта абсалютная ўлада адной асобы альбо групы асобаў, якія абапіраюцца на права ўлады і самы гэтае права сцьвярджаюць і фармулююць у законах, дзеяньнях і распараджэньнях. Дыктатура – гэта ня выверт, ня збочанасьць палітыкі, а сістэма ўлады, легітымнай альбо нелегітымнай, якая мае выбраную апору ў грамадзтве і абслугоўвае сама сябе і пэўныя грамадзка-эканамічныя і палітычныя групы ўнутры краіны, альбо за яе межамі.

Дыктатура можа набываць санацыйныя функцыі. Яе зьяўленьне можа адбыцца ў любым месцы, дзе ёсьць крызіс улады, а грамадзтва перажывае эканамічныя цяжкасьці альбо заведзена ў тупік. Дыктатура тады выступае ў ролі выратавальніка народа і пэўны час можа такой нават здавацца (хоць і не абавязкова), бо дыктатура падтрымлівае сама сябе, і галоўны інстынкт дыктатуры -- захаваньне сваёй ўлады.

Фармаваньне дыктатуры ў сучасным сьвеце адбываецца, як правіла, з выкарыстаньнем мэханізму дэмакратыі, дзеля легітымізацыі аднаасобнай (альбо групавой) ўлады.

Дыктатура часта бывае партыйная, мафійная (карпаратыўная), нацыянальная, клерыкальная (тэакратычная), ваенная, паліцэйская, акупацыйная і інш. Пры гэтым яна, як правіла, аўтарытарная.

**Партыйная дыктатура** – гэта тады, калі ўладу ў краіне захоплівае адна партыя, якая зьнішчае ўсе астатнія партыі, а ўладу ў гэтай партыі захоплівае група партыі, якая вылучае дыктатара. Гэта схема камуна-фашысцкіх дыктатур.

**Мафійная дыктатура** – гэта калі абсалютную ўладу захоплівае мафійная (карпаратыўная) група, якая вылучае дыктатара. Такая дыктатура небясьпечная для народа і дзяржавы, паколькі выкарыстоўвае іх як прыватную ўласнасьць.

**Нацыянальная дыктатура** – гэта калі дыктатар і палітычная сіла, якая за ім стаіць, імкнуцца дзейнічаць у інтарэсах нацыі. На пэўным этапе ўлада нацыянальнай дыктатуры можа супадаць з інтарэсамі дзяржавы і народа (абарончая вайна, навядзеньне парадку пасьля грамадзкага развалу, рэформы і інш.).

У далейшым такая сістэма становіцца тормазам нацыянальнага разьвіцьця, бо не заснавана на свабодзе і не стымулюе свабоднае выяўленьне вытворчых і асобасных магчымасьцяў людзей.

**У сучасным сьвеце і мафійная, і нацыянальная дыктатуры найбольш верагодныя і даўгавечныя ў**

